PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 2 (2017) ГОД XL БЕЛАСТОК 8 СТУДЗЕНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Ціхая ноч, святая ноч...* Фота з архіва

*Юры Баена*

## Мае незабыўныя Каляды

7 студзеня (25 снежня — паводле юліянскага календара) Праваслаўная Царква святкуе Раждження Хрыстова. Сучасныя гараджане — выхадцы з беларускіх вёсак усходняй Беласточчыны, тыя, што не страцілі рэлігійна-нацыянальнай памяці, за сямейным калядным сталом бацькоўскай хаты нярэдка ўспамінаюць многагадовай даўніны святкаванні Нараджэння Збавіцеля, іх багатую народную абраднасць, непаўторны настрой і перажыванні, часам співаюць калядкі.

Маё пакаленне набліжаецца да сарака гадоў. Ніжэйзмешчаныя ўспаміны тычацца роднай мне вёскі Мокрае, што распаложана ў 7 кіламетрах на поўдзень ад Бельска. Гэта сярэдняй велічыні, тыповая ў 1960—1970 гадах мясцовасць нашага краю, у якой было каля 80 непустуючых хат, а жытнёва-пшанічнае поле яшчэ не зарастала мятліцай або бярозавым маладняком.

З пакалення ў пакаленне каляднікаў пераходзіла звязда (гвязда). Калядная зорка з'яўлялася ядром для фарміравання хлапечай групы (дзяўчаты хадзілі без звязды). Мне ўжо ў маленстве пашанцавала, бо ад пляменніка Жоржыка Прафірука атрымаў прыгожую, сярэдняй велічыні, аднарадавую гвязду. Зрабіў яе яго бацька Сцяпан. Цэнтральная кругападобная частка гвязды была з рэшата.

Перад Руздвом з сябрамі з кампаніі каляднікаў складаліся мы на каляровую паперу двух відаў — гладкую на сярэдзіну і рогі гвязды ды моршчаную („карбаваную") на пушыстыя кутасікі і фрэнзлі. Паперу клеілі клеем з жытняй мукі. Каб блішчэла і не елі яе мышы, шмаравалі алеем з ільнянога семя. Увесь год наша гвязда вісела ў каморы над сундукамі.

Многа тэхнічных умеласцяў і цырымоніі патрабаваў намер зманціраваць „шопку" з лямпачкамі. Самую „шопку" ў шасцідзесятыя гады здабыць было таксама нялёгка. Я не памятаю, хто і як тады мне яе купіў, але сябра з іншай кампаніі — тое памятаю добра — атрымаў яе аж з Аргенціны ад дзядзькі-эмігранта.

Падчас двухтыднёвых зімовых канікулаў, якія распачыналіся перад каталіцкімі святамі, а канчаліся перад нашымі, збіраліся мы вечарамі, каб развучыць калядкі. Слоў і мелодый вучыліся ад мамаў і татаў шляхам вуснага пераказу, бо доступ да друкаваных тэкстаў быў абмежаваны. У вёсцы знаходзілася ўсяго некалькі багагласнікаў, якіх уладальнікі — найчасцей старэнькія дзядулі ці бабулі — толькі нешматлікім хацелі пазычыць.

*Працяг на стар. 3*

*Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы шчыра жадае рэдакцыі тыднёвіка Беларусаў у Польшчы "НІВА" і яе чытачам поспехаў, здароўя, дабра і шчасця ў Новым 1995 годзе, вясёлых Калядных Свят.*

ПАСОЛ БЕЛАРУСІ Ў ПОЛЬШЧЫ Г. ТАРАЗЕВІЧ

*Чытачам „Нівы" радасных і спакойных Калядных Свят жадае Рэдакцыя*

## Каляднае пасланне

**Яго Высокапраасвяшчэнства, Высокапраасвяшчэннейшага САВЫ, Архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага**

Богалюбівым Пастырам, Глыбокашаноўнаму Манаству і ўсім Верным Дзецям Беластоцка-Гданьскай Епархіі

*І сказаў ім Ангел: я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе ўсім людзям. Бо сёння нарадзіўся нам у горадзе Давідавым Збавіцель, які ёсць Хрыстос (Лк., 2: 10-11).*

Зноў перажываем вялікую духоўную радасць, якая вынікае з прыходу на свет з нябёсаў Госпада-Бога, прыняўшага плоць чалавечую. Адгэтуль вось у святкаванні Ражджства Хрыстова сэрцы нашы поўняцца радасцю Божай. Яна ўзрастае з меры ў меру ў жыцці цяперашнім і будучым.

Калі віфлеемскія пастыры пачулі апавешчаную ім Ангелам радасць, сталі „славіць і хваліць Бога" (Лк., 2: 20). Бо гэта была радасць не зямная, але Божая і духоўная. Да яе трэба было падымацца ў пакоры і страху, разумеючы здзейсненае.

Гасподзь прыйшоў на зямлю не цераз гром, але ў шэпаце і прастаце пячоры быў абвешчаны прыход на свет Богачалавека. Свет, які тады знаходзіўся ў рассеянні, нячуласці, духоўным сваім акамяненні, не заўважыў прыходу Госпада. Толькі сатанінская злосць князя свету падняла паслушную сваю зброю, Ірада, дававедаца ад вешчуноў аб нараджэнні „Цара Іудзейскага", імкнучыся загубіць Яго. І менавіта таму ўступленне на прастол Госпада Славы пачалося ўцёкамі ў Егіпет разам з Маці Яго. Гасподзь-Младзенец надоўга скрываецца ў невядомасці, да часу адкрытага свайго служэння, якое закончылася распяццем на крыжы „Цара Іудзейскага". Само гэтае святое маўчанне з'яўляецца сапраўдным духоўным цудам, больш уражваючым, чым зямныя цуды, і становіцца яно самай вялікай прапаведдзю аб Ім.

Сёння калядную ноч свет сустракае не ў святой цішыні, але ў грукаце войнаў і жахах узаемнага чалавечага знішчэння ў многіх месцах зямлі, у чалавечай нахабнасці і абыякавасці і ў духоўнай пустаце. Гэтакая страшная рэчаіснасць, з-за якой плача наша чалавечае сэрца.

Аднак, калі заўсёды і ва ўсе часы можна і трэба гаварыць аб подзвігу радасці як аб подзвігу веры, то цяпер гэта набывае асаблівую сілу, калі цемрадзь, якая згушчаецца над светам, хоча патушыць віфлеемскую звязду і ад наступу чалавечай варожасці зноў распінаецца Хрыстос. Таму сёння трэба прапаведаваць і вызнаваць радасць Богаяўлення і радавацца ёю, насуперак усяму, і заўсёды згодна навучанню Хрыста: „глядзіце, не жахайцеся" (Мф., 24: 6). Сёння святкаванне Раджджаства Хрыстова павінна быць духоўнай перамогай веры насуперак зямной відавочнасці. Зямныя дзяржавы шукаюць для сябе сваіх зямных пра-

*Працяг на стар. 9*

# Мае незабыўныя Каляды

*Працяг са стар. 1*

Рэлігійныя кніжкі шанавалі як скарб.

З дзіцячай нецярплівасцю ўсе чакалі гадавога свята. У дзень Каляды з раніцы да першай зоркі нельга было есці. Недзе каля поўдня пачынаўся першы святочны рытуал — ставілі і ўпрыгожвалі мы ёлку. На высокім да столі дрэўцы, асаджаным у крыжак або ялінавы пянёк, вешаў я з мамай шкляныя шарыкі-„бомбкі", цукеркі ў бліскучых паперках, пернікі, маленькія яблыкі, цацкі ўласнага вырабу — папярова-саламяныя ланцужкі, папяровыя птушкі, грыбы, зорку. На галінках мацавалі яшчэ падсвечнікі са свечкамі, клалі сняжынкі з ваты, „анёльскія валасы". Стройная, убраная ёлка свяцілася каляровымі, казачнымі цацкамі.

З далёкага маленства помню і тое, што ў кутку пад прыбранай ручнікамі іконай ставілі ў нас каляду — вязку незмалочанага жыта. Потым не было ўжо такога звычаю. Думаю аднак, што ў нейкай ступені каляду заступала так званая „кветка" — вянок са свянцонага жытнёвага і пшанічнага калосся, найчасцей з дадаткам засушанага ліпавага цвету і лісця. „Кветку" гэту ў нас ставілі пад абразом на невялікай паліцы.

Калі на небе паказалася першая зорка, пачынаўся доўгачаканы Святы Вечар. Пад вышываны абрус клалі сена, а пасярэдзіне стала ставілі свечку. Супольную вячэру распачыналі малітвай, пасля якой дзед Рыгор блаславіў сям'ю, жадаючы дачакаць наступных Каляд у здароўі, шчасці і дабрабыце. Яду пачыналі з куцці, так як кажа традыцыя. На стале былі посныя стравы — селядцы з алеем, грыбны боршч, варэнікі з макам, кісель з аўсянай мукі з кампотам з сушаных груш і яблык. Пасля вячэры дзед адносіў каровам сена. Апоўначы 2—3 асобы з сям'і выбіраліся на Усяночную ў царкву ў Падбелле.

Калі памерла мама, Святая Вячэра была ў крузе трох асоб — бабы, дзеда і маім. Не ставілі мы больш ёлкі. Дамінаваў жалобна-памінальны настрой.

У першы дзень Раждзества з адзінаццатай гадзіны раніцы ад усходняга канца вёскі (т.зв. Царкоўнай дарогі) пачыналася калядаванне. Найперш ішлі групкі і групы малых хлопчыкаў і дзяўчынак, потым старэйшыя дзеці, а ўжо вечарам — моладзь. У палове сямідзесятых гадоў прыняўся яшчэ звычай калядавання жанчын на патрэбы царквы. Былі святы, калі праз вёску праходзіла каля дзесяці груп сваіх каляднікаў, часам яшчэ адведвалі хлопцы з суседства — з Дубяжына і Кнарыдаў. Самым шматлюдным (каля 20 асоб) быў гурт найстарэйшай моладзі, у якім дзяўчаты разам з хлопцамі ішлі ў адной гаманлівай вясёлай грамадзе. Шлях ад хаты да хаты вызначала ім вялікая двухрадавая гвязда з „шопкай" — яслямі Нованароджанага Ісуса Хрыста, якая прамянела святлом свечак або лямпачак.

Падышоўшы да акна, калядннікі звярталіся наступнымі нязменнымі і спрадвечнымі, бо яшчэ з часоў царскай Расіі, прывітальна-пажадальнымі словамі: „Поздравляем вас, хозяины, з праздніком Рожджэством Хрыстовым. Дай Божэ дождаті Нового Року, по Новум Році — Трох Царэй, Хрэстітеля. Кажэтэ пiесьню петь і весь дом вэсэліть. Нам і вам здоровым быті!" Пасля гэтага ўступу калядннікі пыталі пра дазвол спяваць. Калі не быў гэта дом жалобы, гаспадары прасілі іх спяваць. Найбольш папулярнымі ў маёй вёсцы былі такія калядныя песні як „Небо и земля", „Бог предвечный народился", „Новая радость свету ся явила", „Нова радость стала", „Я умом ходила" і „Хрыстос Спаситель".

А чым плацілі каляднікам? У Мокрым у час майго дзяцінства і маладосці плацілі толькі грашыма. У шасцідзесятыя гады, залежна ад ліку каляднікаў у групе і якасці спеву, гаспадары давалі ад 2 да 5 злотых, ааднавяскоўцы ўсім вядомыя з-за асаблівай скупасці — 50 грошаў. Калі на працягу мінуўшага года ў каго-небудзь нарадзілася дзіцятка, запрошаныя ў дом дзяўчаты пелі прыпеўкі на рэлігійныя і свецкія тэмы. Традыцыя менавіта толькі дзяўчатам дазваляла спяваць песні з нагоды нараджэння малых дзетак. Тады ніводныя шчаслівыя бацькі грошай ужо не скупілі.

У святочны дзень і вечар паўсюдна ў Мокрым і суседніх вёсках чуваць было дзівосныя і багатыя сваім зместам калядныя спевы, спрадвечны гоман нашай праваслаўнай і беларускай абраднасці. Усе праслаўлялі Нованароджанага Збавіцеля, Прасвятую Багародзіцу і іншыя біблейскія асобы, вялікія падзеі ў Святой зямлі. У калядках спяваных вясковымі выканаўцамі выразна адчуваліся водгукі далёкай мінуўшчыны.

* * *

Добра я помню, што вечар вялікай таямнічай святасці быў і 7 студзеня 1980 года. Духоўная радасць напаўняла маё сэрца, але... і нейкі непаўторны, неакрэслены смутак. На кароткі час я адлучыўся ад сяброўскай грамады, увайшоў у свой дом — да дужа ўжо пастарэлых дзядоў, хвілін пяць пагутарыў з імі. Калі рашыў вяртацца да калядуючых, на момант яшчэ затрымаўся на парозе хаты. Вясковыя жанчыны галасіста спявалі па-суседску, крыху далей рэхам адзываўся спеў моладзі. У прыродзе было ціха-ціха, іскрыўся іней на дрэвах, месяц серабрыў вуліцу. Абапершыся плячом аб вушак дзвярэй, стаяў я непарушна, пакуль не пачуў як сэрца дакранае святасці — заплакаў...

З таго дня мінае ўжо пятнаццаць гадоў. Галасістыя, пранізлівы калядны спеў макрэнскіх жанчын вельмі глыбока ўвайшоў у душу і ў памяць.

**Юры Баена**

# Тапаграфія дарог, мастоў і гідраграфічнай сеткі




Тапаграфічная карта з назвамі камунікацыйных ліній і гідраграфічнай сеткі г. Бельска-Падляшскага і ваколіц з'яўляецца дакументам бытнасці ўсходнеславянскіх плямён на гэтай тэрыторыі ад найдаўнейшага часу. Абвяргае яна спробы псеўдагісторыкаў, якія, з дапамогай этнаграфічнай фальсіфікацыі, намагаюцца даказаць, быццам гэтыя плямёны паявіліся тут у выніку дзейнасці цароў Расіі.

Нанесеныя на карту назвы з'яўляюцца, як сказаў бы беларускі пясьменнік Сакрат Яновіч, „слядамі памяці". Некаторыя назвы паходзяць ад здарэнняў, звязаных з дадзеным аб'ектам; другія — характарызуюць самую тэрыторыю.

На карце ёсць ручаі Рудплавіска і Рудка. Назвы гэтыя вынікаюць ад таго, што вада вымывае масу вокісаў жалеза, якія нагрушчваюцца не толькі на дне ручая, але і ў даліне. Гідравокіс жалеза — ліманіт — мае буры, карычневы з адценнямі колер; ад гэтага і глеба іржавага колеру. Даліны называюць Рудплавіска, Рудкі, Рудавіна, Рудковіна, Рудаўка...

Цікавая назва „Тосканія" — пэўна ў месцы тым нехта па трагедыі лёсу быў ахоплены вялікай тугой.

Ручайкі Грабіннік і Подграбіннік бяруць свой пачатак ва ўрочышчы „Грабіна" ля Відава. Назвы гэтыя выводзяцца з таго, што двор Любмаравізна абсаджаны грабам.

На карту нанесены арыгінальныя назвы рэчак: Белая, Любка, Любча, Крыніца, Шыдлоўка, Сэрэд; ручаёў — Рудплавіска, Рудка, Тосканія, Шэвэль, Грабіннік, Подграбіннік, Вілка, Хвішчэй, Хвошчка, Санкта, Борка і Бродка. Хачу напомніць, што цераз Бельск-Падляшскі цячэ рэчка Белая, а не Бялка, як пішуць розныя фальсіфікатары.

На мосце на ручаі Санкта каля Студзіводаў паяўляліся ноччу прывіды — жанчына з чапцом на галаве і стары пан двара.

Да цікавейшых камунікацыйных ліній належыць гістарычны Мельніцкі шлях. Ён быў абсаджаны вербамі, якія яшчэ дзе-нідзе засталіся. Частка Мельніцкага шляху з'яўлецца Дубяжынская гравейная дарога. Тут вербы знішчаны ў 1969—71 гадах; яны перашкаджалі пашырэнню праезджай часткі дарогі. Далей, за Дубяжынскай дарогай, шлях цераз лес у сяло Мокрае мае старыя дрэвы — вярбу. Праўда, асталося іх мала, аднак цягне ад іх пафас і веліч нашай гісторыі — бытнасці ўсходнеславянскіх плямён. На гэтым адрэзку дарогі хочацца свабодна падумаць ды пакланіцца нашым продкам, якія тут ездзілі, хадзілі... А шум старых вербаў дзейнічае на нас як прысутнасць даўніх здарэнняў на гэтай дарозе. Дарога і вербы — сведкі гісторыі, на жаль, маўклівыя ды таямнічыя для нас. Трэба зберагчы і дарогу, і дрэвы — гістарычнае права на нашую бытнасць на гэтай зямлі.

**Барыслаў Рудкоўскі**

# Будынак на Варшаўскай

Ужо некалькі месяцаў у беластоцкай прэсе пішуць пра пагрозу высялення БГКТ з будынка пры вул. Варшаўскай, 11. Задоўжанасць з прычыны незаплачанай арэнды за некалькі гадоў дасягнула ўжо суму паўмільярда злотых і калі б справу разглядаць толькі з чыста эканамічнага пункту гледжання, усё было б зусім простае. Праблема гэтая, аднак, больш складаная і немагчыма яе вырашыць так, як у выпадку задоўжанасці нейкай гандлёвай фірмы.

У Беластоку ёсць некалькі дамоў культуры, у якіх на штатах працуе некалькі сотак людзей. У Беластоку таксама трэцяя частка насельніцтва — беларусы. Але ніводзін дом культуры не займаецца беларускай культурай. З гарадскога бюджэту на беларускую культуру не адводзяцца ніякія сродкі, з ваяводскага — дакладна столькі ж сама, хаця на тэрыторыі ваяводства жыве каля 200 тысяч беларусаў. Можа тады здзівяцца так рашучы падыход Управы горада ў справе арэнднай платы за будынак пры вул. Варшаўскай, 11. Маем быццам бы гарантаваную роўнасць грамадзян і права на асвету і культуру на роднай мове. Але як тады акрэсліць сітуацыю, калі нават арганізатарам фальк-культуры абмяжоўваецца магчымасць дзейнасці. Праўда, што шмат маладых беларусаў не ведае, дзе знаходзіцца той праслаўлены польскай прэсай будынак, аднак для старэйшага пакалення з'яўляецца ён цэнтрам беларускасці. Журботна было б, каб на Варшаўскай, 11, пачалі прадаваць швейныя машыны, рыбу ці мяса. Але ўсё, здаецца, ідзе менавіта ў напрамку такіх вырашэнняў.

**Рэд.**

# Варта пахваліць

сп. Янку Целушэцкага за яго цікавыя, карысныя і патрэбныя публікацыі, якія часта змяшчае на старонках „Нівы". Аўтар піша свае жамчужныя простай, яснай для кожнага, мовай. У „Легендах нашай зямлі" („Ніва", н-р 50) апісвае гісторыю кальвінісцкага збору ў Орлі. Я даўно ўжо чуў, што будынак гэтага збору купілі яўрэі. Аказваецца аднак, як піша сп. Целушэцкі, што купілі яго ўжо не ад кальвіністаў, але ад каталікаў, сярод якіх няслаўную ролю адыграла жонка Радзівіла, якая аж аслепла ад прагнасці. Цікавая таксама легенда і пра замак у Драгічыне, якая можа стаць тэмай цікавай гістарычнай аповесці пра гэтыя мясціны. Думаю, што яе аўтарам можа паспяхова стаць сам Янка Целушэцкі. Хачу яму яшчэ сардэчна падзякаваць за выдатную працу п.з. „Панарама Гарадоцкай гміны". Жадаю яму далейшых поспехаў і лёгкага пяра.

**Мікалай Панфілюк**



# КАР'ЕРЫ

Дзіўная і хітрая рэч кар'ера. Да таго ж яна капрызная і зманлівая. Нездарма гаворыцца ў рускай песні:

*Судьба играет человеком,*
*Она изменчива всегда:*
*То вознесёт его высоко,*
*То бросит в бездну без стыда.*

Само слова „кар'ера" гучыць нейк груба, не па-нашаму, але ўсё ж такі мілае яно, калі адносіцца да нас саміх ці кагосьці блізкага нам і даволі гучыць немілагучна, калі датычыць нашых знаёмых. Так было, так ёсць і, бадай, так астанецца. Відаць, такая ўжо натура чалавека.

Гэтае слова не мае дакладна акрэсленых граніц таго, што сабой абазначае. Кар'ерай для адных можа быць толькі штосьці вялікае, незвычайнае, а для другіх — даволі тыповае, звычайнае. Кар'еру могуць зрабіць як паасобныя людзі, цэлае грамадства ці нейкая частка яго, так і цэлая краіна ў геаграфічным сэнсе або паасобныя рэгіёны-мясціны яе.

Часта чуем, што перыяд Народнай Польшчы быў вельмі спрыяльным нашаму беларускаму народу для таго, каб рабіць кар'еру. І, здаецца, няма асноў не згадзіцца з гэтым.

Наракаем цяпер, і слушна, што гінуць, уміраюць вёскі нашы, бо ў пошуках так званых кар'ер многія павыракаліся бацькоўскай зямелькі — карміцелькі нашай. Канешне, не добра гэта. Але ці можам уявіць сабе, што было б з намі, калі б мы не мелі куды адысці з перапоўненых вёсак нашых, як гэта было ў санацыйнай Польшчы, напрыклад?! (Вось дзе была б катастрофа, татальная...)

Па-мойму, уся бяда ў тым, што ў нас парушаліся і парушаюцца прапорцыі тэндэнцый гэтых, што мы кідаемся з адной крайнасці ў другую. Губляем так патрэбную ва ўсім памяркоўнасць. Але віну за такі стан нясуць не нашы людзі, бо як народная мудрасць кажа: „рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе ляпей", а неразумная дзяржаўная палітыка. За памылковую ж дзяржаўную палітыку, плацяць, як правіла, на жаль, не палітыкі, а народ. Праўда, у час такіх бурных змен, неразбярых, сяму-таму нават латвей зрабіць кар'еру, як у нармальны час. Часта таксама робяць тады кар'еры тыя людзі, якія найменш заслугоўваюць гэтага. Так менавіта часта здаралася ў час Народнай Польшчы...

У сучасны час таксама пачынаюць некаторыя рабіць кар'еры, і робяць іх абсалютна рознымі спосабамі. На тое як бы і створаны народная (як нібыта раней у нас), дэмакратычная і прававая (як нібыта цяпер у нас) дзяржавы, у якіх выпала і выпадае жыць мне і нашаму пакаленню.

Як было яшчэ раней, за нашых дзедаў-прадзедаў, значыць у часы царскай Расіі, з нашым мужыцкім народам? Здаралася каму-небудзь зрабіць тады кар'еру, ці іх, гэтых кар'ер, у той час нашым мужыкам зусім не было?

Чытаючы польскую і савецкую гісторыю, літаратуру, прэсу складаецца ўражанне, што ў часы царскай Расіі для рабочага і мужыка адзінымі наяўнымі жыццёвымі атрыбутамі былі: бруд, смурод і ўбоства адно. А ўжо пра нейкія там кар'еры і гутаркі быць не магло.

Змяняўся аднак час, змянялася дзяржаўная палітыка і характар дзяржавы, змяняліся таксама густы-погляды яе жыхароў. Цяпер як бы ўжо не да канца верыцца гэтаму, што найбольшым клопатам былой Народнай і сучаснай, ужо капіталістычнай, польскай улады было і ёсць народнае працвітанне, а былых царскіх улад — дакладнае і сістэматычнае атручванне жыцця простаму народу, кіданне яму калод пад босыя ногі, каб ён што і руш зарываў у зямлю сваім брудным носам.

Праўда была крыху іншай; яна, як і заўсёды, любіць трымацца сярэдзіны. Значыць, і ў Народнай, і ў цяперашняй, ужо капіталістычнай, Польшчы, і, тым больш у Савецкім Саюзе, працоўны народ так ужо магутна не працвітаў напэўна і не працвітае, а ў царскай Расіі не толькі гібеў і не кожны гібеў. І за цара-бацюшкі многім рабацягам удавалася рабіць кар'еры. Нашым тутэйшым мужыкам таксама...

А вось вам жывыя факты з адной толькі вёскі, маёй роднай. У гэтыя факты мне, выхаванцу Народнай і жыхару цяперашняй Польшчы, аж паверыць цяжка, але факты, як кажуць, гэта ўпартая рэч.

Мая родная вёска Піліпкі і не надта вялікая, і нічым асаблівым не розніцца ад іншых нашых вёсак, але якая ж цікавая і багатая мінуўшчына яе. Дарэвалюцыйны царскі перыяд таксама. Аж дзіву даешся, якія стройныя кар'еры рабілі мае землякі ў той далёкі час.

У перыяд царскай Расіі мая вёска і ўся наша прыпушчанская тэрыторыя належала да Гродзенскай губерні. Не раз я чуў ад старэйшых людзей, як яны калісьці па справах пехатой у Гродна хадзілі.

Бывала, канешне, што яшчэ і далей пехатой тады хадзілі, напрыклад, у Кіеў. Туды хадзілі памаліцца ў слаўных кіеўскіх святынях, у асноўным у Кіеўска-Пячэрскай лаўры. Былі такія, што і па некалькі разоў туды хадзілі. Часта хворыя ўжо, каб ратавацца ад цяжкай хваробы, напрыклад, ад сухотаў. Сухоты (або туберкулёз лёгкіх) былі ў той час найстрашнейшай хваробай, бо найбольш ад яе людзей умірала, нярэдка цэлыя сем'і. Вылечвацца ад сухотаў пачалі толькі пасля апошняй вайны.

Па словах майго таты, іх сусед, Канстанцін Герасімюк, захварэўшы сухотамі, два разы яшчэ хадзіў памаліцца ў Кіеў. І працягнуў з гэтай страшнай хваробай яшчэ сем гадоў.

Проста была такая мода або ўнутраная патрэба ў нашых продкаў, што хаця б адзін раз у жыцці зрабіць паломніцтва ў Кіеў і пакланіцца яго святыням. А ўжо абавязкова пабываць там павінен хаця б адзін прадстаўнік з кожнай сям'і. Мабыць, адсюль і пагаворка ў нас: „Язык да Кіева давядзе".

*(праця будзе)*

**Васіль Сакоўскі**

## Семінар „Літоўская меншасць у Польшчы"

У днях 5—7 снежня мінулага года адбыўся ў Ольштыне семінар, прысвечаны літоўскай меншасці ў Польшчы. Арганізатарам семінара быў Фонд імя Фрыдрыха Наўмана з ФРГ. Фонд мае 160 бюро ў 73 дзяржавах і адной з мэт яго дзейнасці з'яўляецца пашырэнне ідэй лібералізму, адной з галоўных вартасцяў якога з'яўляецца дбайнасць пра меншасці. У Польшчы Фонд правёў ужо ў 1993 г. у Канстанціне семінар прысвечаны яўрэйскай меншасці. На ольштынскі семінар запрошаны былі госці з Германіі, Літвы і Польшчы; у ліку апошніх і прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў. Вёў семінар д-р Браніслаў Макоўскі, які заўважыў між іншым, што калі нацыянальныя меншасці складаюць каля 4 працэнтаў насельніцтва краіны, Міністэрства культуры і мастацтва адводзіць на іх патрэбы толькі 0,18 праміля свайго бюджэту. Ацэнкі колькасці літоўцаў, пражываючых у Польшчы розныя: паводле Галоўнай статыстычнай установы (GUS) — 9 тысяч, паводле Міністэрства нацыянальнай адукацыі — 20 тысяч, паводле Камісіі нацыянальных меншасцяў 15—20 тысяч. Паводле саміх літоўцаў — 20—30 тысяч. Ацэнкі колькасці іншых нацыянальнасцяў яшчэ больш разыходзяцца: немцаў (250 тыс.—1 млн.), украінцаў (70—500 тыс.), беларусаў (75—400 тыс.), славакаў (5—25 тыс.) і яўрэяў (3—10 тыс.). Фонд імя Ф. Наўмана чакае прапаноў арганізацыі семінараў таксама ад іншых зацікаўленых меншасцяў.

**Андрэй Гаўрылюк**

# З дзённікаў С. Яновіча

**1990 - 10 - 10.**

Вэрхал, таксама, і ў беластоцкіх палякаў па прычыне *Белавежы'90*. Хочуць даўмецца, што здарылася. Таемнасць інтрыгуе. А зваліўся ж гурт парламентнікаў з Мінска... Чагосьці такога ніколі не было дагэтуль! У чым тут справа? — шуміць погалас. Беларусы ж чыпелі ціхутка...

**Мушынскі**, шэф беластоцкага радыё, прыліп да мяне, каб высмактаць сякую-такую інфармацыю. Ударыў у тоны жалю, што беларусы ідуць на ізаляцыянізм. А яшчэ і з шантажам ён у падтэксце, што ўлады... загневаюцца на БДА. Ды пачаў інспірацыю, каб аб'явіць вайну наменклатурным войтам у нашых гмінах і... БГКТ (без яго знішчэння намі, кажа, не будзе пастулаванага БДА Цэнтра беларускай культуры РП, бо Варшава баіцца быць зразуметай як лівідатар беларускага жыцця). Sic! **БГКТ абароніць мін. Краўчанка?**

Як адчапіцца нам ад гэтых „польскіх сяброў"? Трэба, звычайна, перастаць мне прымаць іхныя запрашэнні. Ужо непрадуктыўныя. (...)

Бліжэйшы прагноз. Афіцыйны Мінск пойдзе на сувязі з БГКТ у першую чаргу і таму наша атака на Барскага была б палітычнай памылкай, або і інфантыльнасцю. Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" — самы натуральны партнёр БДА, але апазіцыйнасць якога ў БССР лімітуе нашу ролю тут да другаснай ( — Запруднік: рэальна дапамагчы беларускаму народу можа эміграцыя толькі праз структуры БССР, на жаль). Палякі дасканала разумеюць эмбрыянальнасць БДА і будуць намагацца накіроўваць ягоны рост у напрамку калясалідарніцкай філіяльнасці, адпаведна з інструментальнай трактоўкай імі ўсяе нашай меншасці. (...)

**1990 - 10 - 16.**

Беластоцкія *Кур'еры* пашалелі! *Poranny* проста абвінавачвае БДА ў дзяржаўнай нелаяльнасці, а *Podlaski*, праўда, абмежаваўся да вядомай байкі пра беларускі сепаратызм (у падтэксце). Параўнаўча спакойна вядзе сябе *Gazeta Wsp*.

Гэты шум салідна прыпалохаў маіх *экстрэмістаў* (...).

**1990 - 10 - 19.**

Сям-там яшчэ папісваюць у газетах пра беларускі сепаратызм у Беласточчыне (напр. учора *Kurier Podlaski*, а 17-га — *Trybuna*). Ва ўчарашняй вечаровай праграме варшаўскай *TV* мін. Скубішэўскі катэгарычна заявіў, што *няма праблемы Беласточчыны, граніцы застаюцца такімі, якімі ёсць, ніхто не палячыць беластоцкіх беларусаў*. Адхіляе ён мінскія прэтэнзіі на гэты конт.

Псіхалогія ўспрымання такіх сцверджанняў у палітыцы адбіваецца ў грамадскасці адваротным эфектам. Сярод палякаў ажно загуло, менавіта, ад тае праблемы Беласточчыны (...) Нават *Reuter* прызарабіў (...)

**1990 - 10 - 21.**

Літаратурнае аб'яднанне *Белавежа* дабілася судовай рэгістрацыі і сталася юрыдычна самастойнай творчай арганізацыяй (ад жніўня). Ян Чыквін пастараўся (...).

Шпацыр з Юркам Калінаю (не маючы работы, ён навучае праваслаўнай рэлігіі ў нейкай пачатковай школе ў Беластоку). Гэты нядаўні студэнт гісторыі, уваходзячы ў дарослае жыццё адчуў сябе на мяжы роспачы ад татальнай САМАПАЛАНІЗАЦЫІ праваслаўна-беларускіх сем'яў у горадзе! Яго вучні і слухаць не хочуць якіх-колечы згадак на беларускія тэмы! Яны — заядлыя палякі. Гасне, таксама, Беларускае аб'яднанне студэнтаў. Шмат актыву чмыханула на Захад, патрактаваўшы, відаць, уласную беларускую актыўнасць тут як своеасаблівую выпрацоўку карыснага запрашэння ад эмігрантаў, у Амерыку (...). І так, даволі хутка, спраўджаецца мая *тэорыя пружыны*.

*(працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— Пятро Краўчанка, тадышні міністр замежных спраў Беларускай ССР;*

*— Кжыштаф Скубішэўскі, тадышні міністр замежных спраў Рэспублікі Польшча;*

*— „тэорыя пружыны" — публіцыстычнае параўнанне, у якім маецца на ўвазе тое, што працэс паланізацыі запынецца на парозе беларускай высокакультурнасці і далей не прасоўвацца, як нельга, вось, цалкам сціснуць пружыну; асіміляцыя, бы той пажар тарфяніку, глыбінна пашыраецца ў плебейскіх, нацыянальна неадукаваных, слаях грамадства, у якіх няма пачуцця ўласнае вартаснасці.*

## Ускрыта яшчэ адна белая пляма

Алег Латышонак у сваім цікавым эсэ п.з. „Помнік братам Булак-Балаховічам" („Ніва", н-р 49) закрануў даволі складаную і цікавую тэму беларускіх герояў. Яшчэ нядаўна падобная тэматыка была забаронена, цяпер гэтыя „белыя плямы" можна адкрываць. Старэйшыя нашы людзі, якія даўней працавалі ў Белавежскай пушчы, помняць братоў Балаховічаў. Вельмі цікава, што Станіслаў Балаховіч, чалавек, які ў 20-я гады змагаўся з бальшавікамі, а ў 1937-39 г.г. служыў добраахвотнікам у арміі Франка ў Іспаніі, загінуў з рук гестапа ў 1940 г. З такімі людзьмі немцы лічыліся, а тут гіне ён з іх рук. Штосьці тут загадкавае і наўрад ці мы калі-небудзь даведаемся праўду пра смерць Станіслава. Мне здаецца, што ў смерці старэйшага Булак-Балаховіча прыклаў свае рукі бальшавіцкі НКУС, які мсеў сваіх рэзідэнтаў і шпіёнаў на цэлым свеце. У 1940 г. Гітлер і Сталін ставіліся да сябе з сімпатыяй, а НКУС і гестапа нават супрацоўнічалі.

Вельмі добра, што пастаўлены помнік Станіславу і Юзафу Балаховічам ды іхным жаўнерам, толькі не ведаю, ці былі б яны задаволены, калі б даведаліся, што надпісы на помніку на польскай, а не на беларускай мове. Яны ж сваё жыццё прысвяцілі барацьбе за беларускую справу. Ці сапраўды не было ў нас каму скласці надпіс на роднай ім і нам мове, так з літаратурнага як і з тэхнічнага боку?

**Мікалай Панфілюк**

Ада Чачуга

# Хлеб са сваёй печкі

Анна Стэльмашук прыйшла ў нашу рэдакцыю ўпершыню ў 1985 годзе. Бацькі яе, Марыя і Канстанцін Галубоўскія, у 1985 годзе святкавалі сваё залатое вяселле. Але што ж бы гэта было за свята, калі б не было на ім „Нівы"?! І бацька выслаў дачку „да рэдактараў". „О-го-го! — усплясквае рукамі Анна Стэльмашук. — Вы разумееце, чым была для іх „Ніва"?! Я і сама вось усе газеты прачытаю і выкіну. А ці ж „Ніву" я змагу парваць?.."

Залатое вяселле адсвяткавалі тады ў Юшкавым Грудзе, у сястры Анны — Любы Саковіч. А як жа, паехалі туды людзі з „Нівы": і Вера Валкавыцкая, і Яня Чэрнякевіч, і нябожчык Віктар Рудчык. Ой, было тады ўражанняў!

Бацька Анны быў шчырым беларусам і наогул чалавекам вольналюбівым. Калі на семдзесят трэцім годзе схапіў яго інфаркт, амаль паміраў ужо. Ляжаў на рэанімацыі ў Беластоку, падключаны да апаратуры, і за яго сэрца працавала машына. Сям'я прыйшла ў апошні раз пабачыцца з бацькам. „Адвяжыце мяне! — запатрабаваў ён. — Не буду тут ляжаць — быццам сабака на ланцугу!" Доктар дазволіў. Развітвайцеся, кажа. Яшчэ мінут дзесяць пажыве. А як адчапілі, дык бацька жыў яшчэ шэсць гадоў.



*У рэдакцыі цешацца падарункам. Галіна Рамашка з хлебам Анны Стэльмашук.*

* * *

Тады пачалася наша дружба з Аннай Стэльмашук. Неяк была яна адзінай, якая прынесла ў рэдакцыю кветкі на 35-годдзе „Нівы" ды на 36-годдзе, у 1992 годзе, калі нават супрацоўнікі пра гэту гадавіну забыліся. Яна не памятала.

А пасля ўжо пачала нам прыносіць свой, выпечаны ўласнымі рукамі хлеб.

* * *

Доўга давялося мне шукаць яе хату ў Засценках. Вёсачка прытулілася да Беластока — як рукой падаць. Бачу яе з шашы, а як да хат на ўзгорку даехаць? Урэшце набіраюся адвагі і рашуча ўязджаю на Томкаву Гару, а там ужо нейкі добразычлівы гаспадар са свойскай гаворкай адчыняе мне ўнутраную браму, праз якую магу праехаць да наступных хат. Праўда, Анну Стэльмашук ён не ведае, але ўпэўнены, што знайду яе хату пад лесам. А вяртацца будзеце палявой дарогай, кажа, яна вядзе ўздоўж лесу.

— Трэба было вам пытацца пра Нютку, — кажа ўзрадаваная і крыху шакіраваная маім неспадзяваным візітам Анна Стэльмашук. — Мы дык заўсёды сюдэмі ходзім, — паказвае яна на загарадзі, а вам, на машыне, трэба будзе кругом ехаць.

А я цешуся, як дзіця, што ўрэшце знайшла яе хату.

* * *

Цяжка было цётцы Нютцы пакідаць сваю хатку ў Дублянах, што каля Мастаўлян, тую зямельку, якую так любіла, што думала канца не будзе,.а калі валачыла поле бараною, нагамі грудкі разбівала, каб ралля была пульхная, як гэты хлеб, які пячэ яна сёння. І хаця хатка была ўжо старая і развалелая, то ўсё ж гэта было гняздо яе чацвярых дзетак.

У восемдзесят шостым пераехалі ў вёску Засценкі, а фактычна ў Беласток. Муж да працы на зямлі занадта не гарнуўся, ды і дзеці хацелі вучыцца ў горадзе. Зрэшты, тут ужо жыла яе замужняя дачка. У восемдзесят сёмым



*Хлеб расце, а цётка Нютка выграбае лішні жар з печкі.*

паставілі драўляны дом. Усё-такі гэтыя Засценкі былі з боку родных мясцін, і можна было прынамсі кінуць вокам у сваім напрамку.

Калі Анна паступала на працу на Беластоцкі мясны камбінат, далі ёй запоўніць анкету. У рубрыцы „нацыянальнасць" яна напісала: „беларуска", а ў рубрыцы „грамадзянства": „польскае". Жанчына, якая правярала анкету, са здзіўленнем падняла бровы: „Вы што, аднекуль прыехалі?" „Не, я тут нарадзілася", — адказала Анна. „Значыць, трэба паправіць нацыянальнасць, бо калі вы тут нарадзіліся, дык значыць вы — полька", — канкрэтна параіла жанчына з аддзела кадраў. „А што, вам невядома, што тут, апрача палякаў, жывуць беларусы?" — узбурылася Анна.

Заўпарцілася і нічога ў анкеце не паправіла. І стала такім чынам адзінай беларускай на мясным камбінаце, хаця палова яго працаўнікоў гэта не хто іншы, як беларусы. Рэгулярна купляе адну з дзвюх „Ніў", якія прадаюцца ў кіёску каля ўваходнай брамы на камбінат.

* * *

Будуючы дом, Анна вырашыла зрабіць там хлебную печку. Суседкі смяяліся: „Po co w mieście piec chlebowy?"

— А я ўсё жыццё адчуваю нястачу хлеба, — кажа Анна, — бо ў маім дзяцінстве быў хлеб „траякі: чорны, белы і ніякі", а пераважна „ніякі". Дык я ім і адказваю: „Яшчэ не раз на булку прыйдзеце!"

— Ну, і як, прыходзяць?

— Я заўсёды нашу: то на свята, то на Новы год, то на імяніны. Суседзі вельмі добрыя, я імі задаволеная, беларусы, хаця і каталікі.

Хлеб Анна Стэльмашук пячэ два разы ў тыдзень.

— Сухі хлеб размачу, — расказвае, — дадам крыху варанай бульбы, тады ён лепш свежасць трымае, яшчэ ўсыплю жытняй мукі, дадам дрожджы. Часамі малака далію — як кіслага, то хлеб будзе больш вільготны, як саладкага, то пульхнейшы. Калі раніцай

*Працяг на стар. 9*

*Уладзімір Саўчук*

### Гэта ж мой горад

Вось зялёны ціхі куток.  
Ён саграває душы маёй холад,  
тут дэмакраты руку падаў,  
гэта ж мой родны горад.

Запозна збудзілі нас да жыцця,  
задоўга мы чакалі.  
Талент наш гінуў у вачах  
беластоцкай журналлі.

І дзе шукаць прыязных душ  
няведама, такая доля наша.  
Наш родны горад Беласток,  
мае зялёнае Падляшша.

* * *

Жыццё маё, ах жыццё!  
Чаго мяне ты вучыла?  
Дваццаць гадоў я дарастаў,  
цяпер беззваротна зблудзіла.

Сакрэты мовы спазнаваў,  
бацька цягнуў за язык.  
Да роднай мовы Падляшша  
я прывыкаў і прывык.

Вучылі мяне тыя людзі  
ў якіх я быў адзінок,  
а маці ўвесь час паўтарала:  
— Не забывайся сынок  
і паслухай:

„І выйду ранэнько с косою  
росою обмыю твар;  
дынёк ўжэ збудывся — спывае,  
значыт — зноў будэ сквар".

*Барыс Руско*

### Адноснасць

I

Час — чарапаха і птушка,  
рака раўнінная і горны паток,  
секвоя і матыль — адначасова.  
Хвіліна ў ажурнай ласцы,  
а дзень — у кашулі аднаразовай,  
а год — хорам дзён у хвілінаў змове,  
а век — пошумам дрэў у танцы гадоў,  
а эра — акамянелы голас саламандры.

II

Матыль шануе час — да бляску  
хвіліны.  
Дзень адчыняе дужкі,  
ноч зачыняе дужкі.  
Крылы разводзяць раніцу і змрок.  
Світанак — на з'ядзенне кахання.  
Сплецены крылы ўюць сэнс жыцця.

III

Стагоддзе — толькі дзень секвоі,  
у каранях галіністых пульсуе час.  
Стагоддзе — вавілонская вежа  
пакаленняў матылька  
і адно жыццё чалавека,  
і амаль нішто ў алфавіце  
ўсёабдымнасці.  
А якім успамінам гарыць існаванне!

IV

Заняло дух ад гульні полымя,  
вады і скалаў.  
Багна хвастом б'е па краях  
магчымасці.  
А ў малога жыцця вялікія вочы.  
А волат у звалцы сонечных праменняў.  
І то пачатак. Няма канца.  
Аднак сціскаю эру ў жмені дня.

V

Кінакарціна аб зямлі. Дзівуюся,  
як курчыцца цягучы час.  
Зямля жыве!  
Гэта матыль, толькі ў маштабе іншым,  
на іншым поплаве.  
Абрысы крылаў зменены,  
колеры духа —  
гэта памост чацвёртага памеру.

VI

Эйнштэйн іграў па нотах часу,  
смыкам вадзіў па жывых струнах.  
У матыля жыццё такое ж,  
што і ў секвоі,  
і за рулём святла яны як  
роўны з роўным.  
Агарак усё недагарае. То  
незапаленая свечка.  
Па цыферблаце часу ідзе  
адноснасць.

*Міхась Андрасюк*

### Ніоба беларуская

1

Ніоба. Хто гэта Ніоба?  
Дзяцей тваіх таксама расстралялі,  
хаця не ворагі,  
хаця не ўдосвітак,  
хаця не раскалола сэрца  
балючая страла.  
Не ашалела ты, не плакала,  
ўсё часу не хапала  
перамяніцца ў камень:  
зноў трэба сеяць, зноў палоць,  
не то расце, што сэрцу міліе.  
А за плячыма выганы даўжэюць  
і сцелюцца, як з маладосці ручнікі,  
у сцежкі, у дарожкі-паваротки,  
дзе праўда вырастае ў соснах  
празмерна завысокіх,  
каб узяць яе ў далоні  
і прынесці ў дом.

2

Не стаяць табе ў галерэях,  
дзе прошласць  
адзяваюць у саноўныя хусткі,  
дзе смяротнасць згарае бы свеча  
на блакітных прастолах.  
О маці!  
Маці бежанцаў вечных,  
Ніоба беларуская!  
Над табою гарыць толькі восень.  
І ветру шолах.  
І холаду.  
І самота.

3

Самота пачынаецца з маўчання.  
Маўчанне — душа прагрымелага  
слова.  
Адлятаюць птушкі.  
Адлятаюць дзеці.  
І не трэба плакаць.  
І ўсё нармальна.  
І восень рассыпаецца ў дубровах  
дробным макам.

4

Развітальных слоў не спісаць  
ні пяром, ні сэрцам.  
Сэрцу смерць у вершы часта  
бывае сястрой. І рыфмай.  
Адзінота на хлеб кладзецца  
бы соль.  
І ў вуснах гарыць  
горкім німбам.

5

Дочак сем. Сем сыноў.  
У далонях марозу лязо  
і напоўнены словам камень,  
зняты з неба крадком у радзіме.  
Ціха крыкне спрасоння ноччу  
птушка, што загубіла гняздо  
на знаёмай і яснай паляне.  
Восень.  
Час па калена стаіць у залатой каляіне.

### Прывітанні і пажаданні калядоўшчыкаў

Ці дома гаспадар?
Ці вяліш гаспадару
Каляду заспяваці,
Ці так Калядзе даці?

* * *

А за гэтым словам
Святкуйце здаровы
І з сямсйкаю,
З вясялснькаю!

* * *

Судзі Божа, гэтыя Святы пражыці
Ды і другіх дачакаці!

* * *

Табе, дзядзька, Каляда,
А нам давай пірага!

* * *

Мы вашага двара ды і нс мінаем
З Калядным святам, песняй вітаем!

* * *

Пане господару,
Пані господыне,
Мы прыйшлі Ісуса Хрыста славіць,
Ваш двор весяліць,
Вам і нам вясёлым быць!

* * *

Песеньку пэрэспівалі,
Дай Божэ на другі год дождалі!

* * *

Шапочка овса,
А на вэрх колбаса.



*Калядоўшчыкі.* Фота з архіва

ВІКТАР ШВЕД

### СВЯТОЧНАЯ ЁЛКА

З лесу зорнага на золку
Завітала да нас ёлка.
Сваім выглядам багатым
Асвяточніла ўсю хату.

Пачала ўжо апранацца
У безліч каляровых цацак.
Зоркамі да нас міргае
І аблічам Мікалая.

На ёй лямпачкі засвецяць,
Пад акенца прыдуць дзеці
Цэлай дружнай грамадою
З васьмікутнаю звяздою.

Побач ёлачкі ва ўбранні
Распачнуць калядаванне.
І ў настроі каляровым
Стрэнем Раджджаство Хрыстова.

## Санта Клаўс, Дзед Мароз ці Святы Мікалай?

Некаторыя з вас пэўна думаюць, што Санта Клаўс (Дзед Мароз) і святы Мікалай (Цудатворац) гэта адна і тая ж асоба.

Святы Мікалай нарадзіўся ў канцы III ст. у правінцыі Лікея, што ў Малой Азіі. Будучы святчэннікам і епіскапам, праславіўся як спагадлівы чалавек, які незаўважна дапамагаў патрабуючым. Святы Мікалай зусім не напамінаў сённяшняга Дзеда Мароза. Перш за ўсё быў худы, бледны, не меў вусаў і барады, не карыстаўся зімовымі санямі запрэжанымі ў алені.

Толькі ў 1822 годзе англічанін, доктар Мур, напісаў кніжку пра Санта Клаўса. У той жа кніжцы памясціў шмат малюнкаў, на якіх св. Мікалай мае чырвоную вопратку, добразычлівую, шырокую ўсмешку, чырвоны ад марозу твар, доўгую да пояса бараду, махнатыя бровы і буйныя вусы.

Дзед Мароз паявіўся параўнаўча нядаўна. У Расеі пасля 1917 года, калі ішло змаганне з хрысціянствам, каб не намякаць на рэлігійныя вартасці, прыдумалі Дзеда Мароза. Меў ён выводзіцца ад паўночнага ідала Адына. Аднак поўнасцю пераняў выгляд Санта Клаўса доктара Мура і характар Святога Мікалая. Гібрыд гэты перажыўся разам з эпохай камунізму. Усё часцей вяртаецца ў карыстанне стары назоў Дзеда Мароза — Санта Клаўс.

### Чаго нельга дарыць на Каляды

На Каляды многія з нас будуць дарыць родным сувеніры. Ці ўсё можна класці пад ёлку? Аказваецца, што не.

Калі не хочаш, каб наш падарунак прыносіў няшчасце, нельга даваць прадметаў з вастрыём — нажоў, шабляў, мячоў, нажніц. Магло б гэта перасячы ўзаемнае сяброўства. Калі аднак вельмі хочам падарыць брату ножык, а маме нажніцы, мусім памятаць, каб абдораныя намі асобы заплацілі нам за падарунак сімвалічныя грошы. Такім чынам ашукваем нячыстыя сілы, бо фактычна мы зрабілі гандлёвую здзелку куплі-продажу. Гэты звычай родам са Старажытнага Усходу. У Грэцыі панавала звычка не дарыць упрыгожанняў сашчэпленых шпіляй — іголак, аграфак, брошак. Але і на гэта ёсць спосаб. Даючы падарунак, трэба ўкалоць у правую руку абдораную асобу. Лепш не даваць сабе кніжак (гэта адносіцца толькі да заказаных), бо можа прыйсці хутка расстанне. Але каб перахітрыць лёс, трэба ўручаючы кніжку сказаць: „Пазычаю табе на вечную аддачу".

Горш выглядае справа з насавымі хустачкамі. Даручаючы іх, мы правакуем расстанне, журбу і слёзы. І на гэта якраз няма спосабу. Аднак шчасце можа прынесці ахвяраваны шаль. Звязаў ён нас пачуццямі і сардэчнасцю з абдараванай асобай.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Хлопчык вяртаецца запэцканы з панадворка. Усхваляваны бацька пытаецца:

— Ці ты ведаеш да каго ты цяпер падобны?

— Бабка заўсёды паўтарае, што да цябе, — адказвае хлопец.

* * *

Паліцэйскі спыняе грузавік.

— Я ўжо сёмы раз звяртаю вам увагу, што губіце свой тавар.

— А я ўжо сёмы раз вам паўтараю, што на дарозе галалёд, а я трушу пясок.

* * *

Маці пачынае лаяць сына.

— Не крычы, мама, — просіць хлопец. — Ты ж не размаўляеш з татам.

* * *

Ці гэта праўда, спадар пасол, што ў час вашай сустрэчы з выбаршчыкамі вас абкінулі яйкамі? — пытае журналіст.

— Праўда, але былі і воплескі.

— Тады, як уцэлілі, — дадаў іншы журналіст.

## Ціхая ноч

Ціхая ноч,
Святая ноч,
Усё спіць, сніць даўно,
Толькі Маці Святая ўсцяж
Ціха ў яслях люляе Дзіця —
Спі, Сыночак малы.
Люлі, люлі, спі.

А ў гары
Усё гарыць
Серабром зорных крыг.
Хор анёлаў пяе пастухом
Аб Дзіцяці, што будзе Хрыстом,
Светлай песняй хвалы
Славяць Збаўцу зямлі.

Ціхая ноч,
Святая ноч,
У родны край завітай,
Людзям сум і тугу разгані,
Хай жа цешацца ў гэтыя дні,
У ціхую Святую ноч,
У ціхую Святую ноч.



*Гэтыя тры хлопцы — Ян Абрамчук, Адам Максімюк і Пётр Вашкевіч — увесь другі клас Пачатковае школы ў Нурцы. Янка пазнае новыя беларускія літары дома, яшчэ да таго, пакуль пакажа іх настаўніца на ўроку. Вучыць яго дзедка. А Пётрусь нядаўна шасцёрку па беларускай мове атрымаў. Гэта яго вельмі падахвоціла да навукі.*

*Адась, што праўда, не запісаны на беларускую мову, але папытаўся ў пані, ці можа сядзець на ўроку. І таксама не нудзіцца.*

*Вось такая маленькая грамадка ў II класе ў Нурцы, што ў Боцькаўскай гміне.*

**Тэкст і фота М.В.**

# Беласточчыну люблю як уласную жонку!

Лаўрэат „Гран-пры" I Бардаўскай восені **Віктар Шалкевіч** родам з Гарадзеншчыны. Аднак на Беласточчыне ён шырокавядомая асоба. Упершыню выступіў тут на „Басовішчы". Ужо тады пакарыў публіку арыгінальнымі гратэскна-рэфлексіўнымі і лірычна-абсурднымі песнямі. Вялікай папулярнасці паспрыяла таксама бесперапынная прэзентацыя ягоных твораў у радыёперадачах „Пад знакам Пагоні". Ягоныя модныя песні „Ёлачка-блюз", „Крынкаўскі раманс" і іншыя знайшлі сваіх аматараў асабліва сярод моладзі. Спецыяльна для ўсіх паклоннікаў аўтарскай песні Віктар Шалкевіч даў „Ніве" інтэрв'ю. Размова адбылася перад першым выступленнем 29.X.1994 г.

**„Ніва":** — *Што падштурхнула Цябе заняцца аўтарскай песняй?*

**Віктар Шалкевіч:** — У свой час я пачынаў як літаратар. Пазней я зразумеў, што калі народ бедны (а ў нас ён такі), тады не цікавіцца літаратурай, але затое любіць, калі нешта спяваюць ці іграюць. А ў прынцыпе я адчуваю ў сабе звышпрызванне спяваць. А яшчэ ксёндз мне сказаў: „у цябе Божы дар і калі людзі сумныя, ты можаш ім заспяваць, развесяліць і ім зноў захочацца жыць". І сапраўды я адчуў, што ў мяне ёсць галава, сэрца, здольнасці і я як найхутчэй захацеў сябе рэалізаваць *(смяецца)*. І я, за намовай сваіх сяброў, за намовай Міколы Ваўранюка і ўсіх „басаўцаў" — энтузіястаў беларускага руху, паспрабаваў пісаць. Мае сябры і апекуны ў Беларусі, якія садзейнічалі майму творчаму шляху, не ўспрымалі мяне сур'ёзна. Яны думалі, што я займаюся глупствамі. Нават шанаваны крытык Аляксей Пяткевіч не верыў, што нешта з гэтага выйдзе. Але ён паслухаў і кажа: „Віктар, я памыляўся, вы сапраўды многа зрабілі для беларускай песні". Вось так і пачаў спяваць.

*— Ці можаш растлумачыць сказанае „мяне не ўспрымалі сур'ёзна", і якое зараз зацікаўленне тваёй песняй у Рэспубліцы Беларусь?*

— Быў такі перыяд, што мяне ўвогуле замоўчвалі. Я дзякую лёсу, што ў мяне ёсць многа прыгожых і нармальных сябровак. Яны найбольш аддана садзейнічалі майму творчаму шляху, бескарысна мне дапамаглі. Талент мець — гэта не ўсё. Таленту трэба яшчэ дапамагчы. І вось цяпер я сутрэўся з тым, што мяне пачалі ацэньваць нармальна. З'явіўся ў „Культуры" артыкул „Мы перажылі доўгую ноч", дзе мяне называюць лепшым бардам Беларусі. Былі таксама спробы неяк праанлізаваць маю творчасць, але думаю, што нехта канчаткова яшчэ гэта зробіць.



*— Апрача песні рэалізуеш свой талент у тэатры. Ці яшчэ ёсць у Цябе іншыя формы творчай дзейнасці?*

— Цяпер я зняўся ў мастацка-дакументальным фільме „Слёзы марнатраўнага сына". Там выконваю галоўную ролю. У мяне бываюць таксама перыяды творчага крызісу, спаду. У нас у Беларусі цяжка жыць і прыходзіцца проста займацца такімі рэчамі, якімі я не думаў бы ніколі займацца.

*— Ці можаш рассакрэціць якія гэта „рэчы"?*

— Я галоўны аўкцыяніст горада Гродна. Стаю за трыбунай, б'ю малатком і прадаю, інакш кажучы ліцытую. Гэта таксама цікавая праца *(смяецца!)*. І я ганаруся тым, што мяне сапраўды любяць улады. Дарэчы, выйшла тэлеперадача па менскім 8-ым канале пад такім жа загалоўкам „Чалавек, якога любяць улады — Віктар Шалкевіч". І я сапраўды ганаруся, што мяне любіць „слухаць" улада — наш ваявода, мэр горада. Яны ставяцца з пашанай да мяне і маёй працы.

*— Як успрымаеш Беласточчыну?*

— Да Беласточчыны мая любоў ніколі не пройдзе. Я люблю яе як уласную жонку! Тут менавіта зрабіў першыя крокі, тут склаўся як выканаўца бардаўскай песні. І самае смешнае, што калі б я пайшоў шляхам, якім ідуць аўтары ў Беларусі, я з'ехаў бы да нейкай банальнасці. Я пісаў бы песні пра тое „як цяжка жыць нашаму народу", „як мы там мову забываем".

А вяртаючыся да Беласточчыны. Я напісаў песню, якая прысвячаецца бацьку Юркі Ляшчынскага. Спадар Мікалай Ляшчынскі зрабіў на мне незабыўнае ўражанне, таму мая песня называецца „Орля".

*— Ці неўзабаве пачуем іншыя новыя песні?*

— Так, але гэта сюрпрыз.

*— Дзякую за размову і жадаю першага месца!*

Гутарыла
**Ганна Кандрацюк**

P.S. І сапраўды мае пажаданні былі шчырыя і бескарысныя, а Віктар Шалкевіч стаў лаўрэатам „Гран-пры". Улада Бельска таксама любіць слухаць Шалкевіча. Сам бурмістр горада Андрэй Сцепанюк уручыў лаўрэату першую ўзнагароду.

Г.К.

*Юрка Генюш*

# Янка ў капелюшы

Вы, мажа, сябры, нашага Янку і не ведаеце. Прыкметны ён, хоць можа ў горадзе так у вочы і не кідаецца. І вось здарылася з ім гісторыя ўсёй вёсцы на смех, а яму самому хоць ты, сеўшы, плач.

Пад Каляды гэта было. Параспускалі нашых „студэнтаў" па хатах — на канікулы. З'язджаюцца хто адкуль. Запрог бацька гнядую ў сані — Янку да аўтобуса сустракаць паехаў. Прывозіць... і каб цябе! Ён гэта, ці не ён? Распазнаць не можам. Нос кірпаты, той што быў, здаецца. А вось, адзёжа... Усе мы вочы вырачылі: ну франт франтам!

Капялюш такі, ведаеце, з шырокімі палямі, нагавіцы, бы спадніца, „швэды", кажуць, называюцца, ад чаравікаў бляск ідзе, пінжак з разрэзам ззаду, а гальштук язвіта-зялёны на ўсе грудзі... Ну, усяго не раскажаш! Шчыра гаворачы, выглядаў нават прыгожа! Старэйшым, відома, непрывычна, а вось маладыя, якія за модай сочаць, так і цмокалі зайздросна, на яго глянуўшы.

Ну, яго, зразумела, адразу за стол — накарміць з дарогі. Пасля, як у нас прынята, пайшоў па вёсцы пахадзіць — сябе паказаць, знаёмкаў праведаць. Бяда ажно на другі дзень пачалася.

Свята святам, а адразу пасля снедання бацька кажа, што жывёле падаваць трэба.

— Пераапраніся, Янук, з майго там што накінь, пакажы, што не зусім „спанеў" яшчэ ў тым горадзе.

— А чаму ж, татку, — той на тое. — Зараз я. Толькі пераапранацца навошта?! Я і так дам рады. — І гэтак, ведаеце, пяшчотна самога сябе агледзеў. Ну, нічым певень перад курамі, крылы растапырыўшы.

Колькі яму не тлумачыш, а ён сваё. Так і папёр у хлеў ва ўсёй красе.

Ахапак сена набраўшы, да кароў сунуўся спачатку. А гальштук той, ярказялёны, як змяя, каля шыі так і круціцца. Лацятая лыпнула здзіўленым вокам: гэтай парою ды свежая зяляніна? Ну як жа не паласавацца! Высалапіла шурпаты язык, шамкнула ляпай, і паўгальштука з ходу праглынула. І далей каўтае. Хлапца бедная за шыю ў свой бок цягне, ледзь не задушыць. Той у дугу сагнуўся, запёрся нагамі. Толькі выпучаны азадак з разрэза пінжака тырчыць.

У куце какстліва забляялі авечкі. Баран Мацей абег статак сваіх падапечных і сурова зірнуў на невядомую з'яву. Так спакойна, зацішна было, здаецца, у хлеўчыку, а тут з'явілася істота нейкая, выразна рагатая, і яго паненак маніць! Ну, як такое сцярпець? Пахіліў масіўны лоб, падагнуў калені, куляю наперад скочыў і з усяго разгону ў выпнутую круглявіну рагамі пальнуў.

Ну, браткі, чаго не казалі б пра „эляну", а матэрыял, што трэба. Вытрымалі, ведаеце, порткі, па шве толькі разышліся. Паляцеў Янка наперад. Лацятую, рукамі за шыю абхапіўшу, пацалаваў проста ў пысу, з разгону. Тузануўся назад, гальштук у зубах ён пакінуў, і ў дзверы. На босую нагу, бо модныя чаравікі ў гнаі застраглі.

— Ну і трык жа ў нас, бацьку, — кажа. — У зад, здаецца, трэснуў, а зубы ў роце заказдзілі.

Два дні на вуліцу носа не высунуў — устыдаўся. Бацькавы старыя нагавіцы нацягне, кашулю абы-якую, надзьмецца і сядзіць цэлы дзень на ляжанцы, як пень які.

Невядома, што было б, не будзь Марысі, дачкі суседавай. Ну, і хітрая дзеўка! Цэлую раніцу з маткаю нашаю ды сёстрамі па кутках шапталася. То да сябе пабяжыць, то ізноў да нас, то яшчэ кудысь. Пад вечар заходзіць. А ў клубе ўжо іграць пачалі. Забава мае быць. Прыйшла Марыся, і адразу да Янкі. А сама прыгожая-прыгожая! Не гаворыць, а кацянём мурлыкае. Ножкі стрункамі, язычок — мёду банкаю. А Ясенька, а міленькі, а ўстань, любенькі, а пойдзем. Пакуль агледзеліся, ужо нашага героя сцягнула з ляжанкі, у пакой валачэ за руку. А там ужо нагавіцы ягоныя, „швэды" тыя, зашытыя, адпрасаваныя, на чаравіках бляск, што ўсе лямпачкі адбіваюцца, кашуля белая нарыхтавана. Гальштук толькі іншы. Лацятая, як ужо што каўтне, — з горла ў яе не выдзярэш.

І, паверце, хоць мяўся Янка, аднекваўся, то дзяўчына ўламала яго ўсё-ткі. Не толькі што на танцы тыя пайшоў, а ўсю рэшту канікулаў кроку не адступіў ад Марысі. Ну, зусім, як тое ягня за авечкаю, за ёю бегаў. Солі на далонь насыпала б, то лізаў бы. Чуў я, як бацькі між сабой гаварылі, што вяселле, пэўна, спраўляць давядзецца. Бачылі, бяда якая?

*(Са зборніка "З маёй званіцы")*

# Легенды нашай зямлі

* * *

Паводле меркаванняў археолагаў Замкавая гара — як яе называюць жыхары Гацькоў (Бельская гміна) — з'яўляецца гістарычным курганом з IV або V стагоддзяў. Прыглядаючыся ёй, можна адразу сцвердзіць, што не ўзнікла яна сама па сабе, а стварылі яе чалавечыя рукі. Сведчыць аб гэтым яе геаметрычнасць у форме ўцятага зверху конуса.

Побач гары цячэ ручай, а грунт навокал яе дрыгвяністы, паміма меліярацыйнай асушкі ў апошнія гады.

З пераказаў вядома, што на гары стаяў драўляны замак, было там шмат розных будынкаў; быў таксама нейкі мост, які спалучаў акружаную вадою гару з раўнінай. 50 гадоў таму на гары была глыбокая студня. Зараз засталася толькі яма глыбінёй каля 2,5 м.

У адной з народных легенд гаворыцца, што ў мінулым на гэтай гары стаяла прыгожая царква. Перад яе ўваходам плыла рэчка. Аднойчы праз рэчку пераходзіла маці з дзіцём. Быццам бы нейкая ліхая сіла штосьці вырвала з яе рук дзіця, і яно ўтапілася ў рэчцы. Маці звярнулася тады тварам да царквы і сказала: „Каб ты, царкаўка, у зямлю завалілася". Словам гэтым нешта прыдало вялікую сілу, і царква запала ў зямлю. З гэтай пары, калі прыкласці ў нядзелю вуха да гары, чуваць гул званоў гэтай царквы.

* * *

Было гэта даўно, яшчэ за тым часам, як польскія паны з казакамі ваявалі. На поўдзень ад вёскі Старына цягнулася вялікае балота. У той час каля вёскі ішоў бой. Панскіх войскаў было болей, чым казакаў. Разбілі яны казацкі атрад. Аднаго казака пагналі паны ў тое балота.

Казак доўга ехаў па балоце, і, калі даязджаў ужо да берага, балота пад ім правалілася, і багна праглынула ездака разам з канём. На тым месцы застаўся вялікі дол. Пасля ён парос трысцём. Але на сярэдзіне ўпадзіны заўсёды, зімою і летам, стаіць вада, не высыхае і не замярзае. Дол захаваўся і па сённяшні дзень як успамін аб вайне і казаку.

* * *

Аднаго разу князь літоўскі Гедымін паляваў у Бельскай пушчы і, даганяючы тура або аленя, апынуўся ажно на яе паўночна-заходнім рубяжы з Мазоўшам. Вечарэла ўжо, калі ўрэшце дагнаў ён звера над безыменным ручаём. Да бліжэйшага замка ў Суражы было шмат дарогі, а ў гэтай бязлюднай аколіцы не было дзе пераначаваць. Гэтая зямля ад нядаўна належала да Літвы і вяльможы не паспелі заснаваць на ёй паляўнічых двароў. Да таго князь не быў упэўнены ў тым, ці доўга ён тут будзе панаваць. Мо за некалькі гадоў зноў гэтыя землі вернуцца ва ўладанне Мазоўша?

Што праўда, на ўзлессі стаяла некалькі хатак, якія належалі да Старой Вёскі (сёння Старасельцы), але князь намерыўся начаваць у шалашы, які хутка паставілі князевы асочнікі.

Калі стральцы былі заняты вартаваннем упаляванай дзічыны, князь адпачываў над чыстым ручаём.

— Чысты, белы сток, — сказаў князь. — Над гэтым скатам можна было б пабудаваць паляўнічы двор альбо і вёску заснаваць.

Каб задаволіць князя ў хуткім часе над ручаём пабудавалі двор, а пасля і вёску, якую назвалі Белы Сток. Вось такі быў пачатак вялікага горада Беластока.

*Сабраў і апрацаваў*
**Янка Целушэцкі**

# УДАЛАЯ ПРЕМ'ЕРА, УДАЛЫ ЮБІЛЕЙ

Не прыпамінаю сабе, каб у апошнія гады калі-небудзь галоўная зала Драматычнага тэатра ім. Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку была запоўненая да апошняга месца. 18 снежня 1994 г. падчас прэм'еры „Фердыдурке" паводле рамана Вітальда Гамбровіча пару дзесяткаў асоб нават стаялі. І хаця спектакль разам з антрактамі цягнуўся звыш чатырох гадзін, ніхто не выйшаў перад заканчэннем.

Святкуючы юбілей 50-годдзя існавання, Тэатр ім. А. Вянгеркі дачакаўся спектакля на найвышэйшым узроўні. Рэжысёр „Фердыдурке" — дырэктар тэатра Анджэй Якімец запрасіў на сваю сцэну акцёраў з Варшавы, Кракава і вядомай артыстычнай суполкі „Вершалін". Госці складалі амаль палову занятага ў спектаклі калектыву.

На прэм'еру і юбілей прыехаў з Варшавы намеснік міністра культуры і мастацтва Міхал Ягела, які пасля заканчэння спектакля ўручыў акцёрам і дырэктару А. Якімцу Крыжы заслугі, прызнаныя ім прэзідэнтам РП за дасягненні на ніве культуры. Сярод віншавальных тэлеграмаў з усёй Еўропы, дасланых з нагоды юбілею, на пачатку былі зачытаны віншаванні ад намесніка міністра культуры Беларусі Уладзіміра Рылаткі.

Галоўным аднак здарэннем вечара быў спектакль „Фердыдурке". Некалькі разоў п'есу паводле аднайменнага рамана Гамбровіча паказвалі ў Тэатры тэлебачання і 500 разоў ставілі яе ў розных тэатрах Польшчы. Сёлетнюю пастаноўку Якімца крытыка праўдападобна ацэніць як вельмі блізкую літаратурнаму арыгіналу. Рэжысёру ўдалося паказаць галоўныя жыццёвыя прадпасылкі Гамбровіча, яго назіранне польскай псіхалагічнай рэчаіснасці. Шчырасць вялікага літаратара мяжуе з прафанацыяй нацыянальных святасцей. Яго творчасць была спробай паказаць палякаў з пункту гледжання чалавека, які стаіць звонку нацыянальнай міфалогіі.

Пахілєная ў бок гледача сцэна беластоцкага тэатра стварала пэўна нейкія цяжкасці ў руху акцёрам, але дазваляла паказваць адначасова акцыю ў трох месцах. Адпаведнае святло і знакамітая музыка разам з прафесіяналізмам акцёраў давалі поўны камфорт ва ўспрыманні ўсё-такі даволі складаных думак Гамбровіча.

Несмяротнасць гамбровічаўскага свету можна было пабачыць не толькі параўноўваючы акружаючую рэчаіснасць і тое, што дзеялася на сцэне, але таксама чытаючы юбілейны буклет, у якім побач інфармацыі пра творчасць знакамітага літаратара змешчаны рэкламы такіх фірмаў як „Polmos", „Browar Dojlidy", „Zakłady Mięsne". Сцэнічны фарс спалучаецца там з фарсам, які стварае штодзённае жыццё культурных адзінак.

„Фердыдурке" — гэта гратэскавы аналіз менталітэту палякаў трыццатых гадоў. Галоўны герой Юзё (літаратурны аўтапартрэт Гамбровіча) змагаецца перш за ўсё са сваёй натурай, каб пазбегчы тых прыкмет індывідуальнасці, якія імкнецца накінуць яму грамадства сваімі ідэямі, уяўленнямі пра сябе. Жыццёвая вандроўка Юзя паказвае, аднак, што ўся ідэйнасць мае толькі дэкларатыўны характар, а фактычна няма ніякіх ідэй. Вонкавы свет дамагаецца ад адзінкі адабрэння лозунгаў, тэзісаў, прынцыпаў нават пры поўнай яе свядомасці, што адлюстроўваюць яны толькі міфалагічную праўду. Працэс гэты, паводле Гамбровіча, называецца „упупненнем" — прышпільваннем чалавеку ў месца твару найбольш інтымнай часткі цела.

Паміж выдуманым вобразам грамадства і рэчаіснасцю няма ніякага падабенства. Рэчаіснасць — гэта смешнасць, пустыя словы, архаізмы, акасцянеласць думкі, крывадушны рух толькі паводле назначаных схемаў. Падпарадкавацца такому свету абазначае адно: дазволіць „упупіць" сябе.

Працэс „упупнення" найбольш гратэскава і пераканаўча прадстаўлены Якімцам на ўроку польскай мовы, прысвечаным творчасці Юлюша Славацкага. Глядач толькі пасля спектакля можа зарыентавацца, што смяяўся сам з сябе, бо кожны школьнік прайшоў падобны курс „упупнення" як і вучні прафесара Пімка. Кожны, як малітвы, у свой час у такой ці іншай форме вучыўся, што „Славацкі вялікім паэтам быў", хаця ніхто не ведаў, чаму ён быў „вялікі".

Звонку мадэрністычныя погляды мяшчанства ў сапраўднасці з'яўляюцца маскай, за якой скрываецца дурнота, хамства, духоўная пустэча. Арыстакратыя, як рэлікт феадальнай эпохі, з'яўляецца толькі інакш дрэсіраванай і інакш апранутай групай халопаў. З пагарджанымі імі сялянамі спалучае арыстакратыю рытуальны падыход да акту „біцця ў морду", іерархічнае ўспрыманне свету, абраднасць і містыфікацыя на кожным кроку. Сялянская мана інтэлігентаў, распрагандаваная ў свой час Выспянскім, у гамбровічаўскім выданні мае амаль характар эратычнай сапсаванасці. Няма ніякага чалавечага ідэалу, ёсць толькі чалавечае існаванне падпарадкаванае вонкаваму свету.

Гэтае акружэнне мае нейкую закадаваную мэту пераўтварыць адзінку ў адзін са шматлікіх элементаў нейкага збору. Інстынкт чарады?!

Рэжысёр спектакля прымяніў вельмі цікавы варыянт дзеля паказання змагання Юзя са сваімі сумненнямі і вонкавым светам. Галоўнага героя прадстаўляюць двух акцёраў адначасова. Юзё думае, гаворыць з сабой, насміхаецца з сябе, злуе на сябе ў выглядзе дыялогу са сваёй другой натурай.

Хаця Гамбровіч пісаў свой раман у акрэсленым часе, яго назіранні за натурай палякаў ёсць і застануцца доўга яшчэ актуальнымі. За 20 ці нават 50 гадоў смех гледачоў падчас спектакля будзе таксама смехам з саміх сябе.

**Яўген Міранавіч**

# Меншасці ў альбоме

У верасні 1992 года Польская акадэмія навук і Ягелонскі універсітэт ладзілі навуковую канферэнцыю, прысвечаную нацыянальным пытанням. Першая яе частка — „Іншыя сярод сваіх"*) — прайшла ў Варшаве і канцэнтравалася на праблемах Польшчы, як гістарычнае, так і сучаснае. У час кракаўскае часткі, якая называлася „Еўропа дзяржаў, Еўропа нацый", дыскусія датычыла, галоўным чынам, цяперашніх праблемаў нашага кантынента.

У гэты сам час у варшаўскім Музеі незалежнасці была арганізавана фатаграфічная выстаўка пад загалоўкам „Іншыя сярод сваіх". На выстаўцы прэзентаваліся больш за тысячу здымкаў — ад 1862 да 1992 года, зробленых сярод розных нацыянальнасцяў, якія жылі і жывуць побач палякаў, у польскай дзяржаве. Фатаграфіі — у большасці з прыватных калекцый — удалося сабраць, дзякуючы конкурсу, распісанаму Інстытутам літаратурных доследаў ПАН, тыднёвікамі „Polityka" і „Przekrój" ды штодзённай „Gazeta Wyborcza".

Нядаўна выйшла з друку прыгожая кніга-альбом „Іншыя сярод сваіх", якая з'яўляецца вынікам аднайменных канферэнцыі і выстаўкі. На яе старонках, побач сябе, галоўныя рэфераты і самыя цікавыя здымкі, дапоўненыя кароткімі зацемкамі пра гісторыю і сённяшні дзень кожнай нацыянальнасці ў Польшчы. Паказаныя армяне, беларусы, венгры, грэкі, караімы, літоўцы, лэмкі, македонцы, немцы, расейцы, славакі, татары, украінцы, цыганы, чэхі і яўрэі.

Беларуская тэматыка ў альбоме прадстаўлена чатырма здымкамі. Адзін зроблены на Палессі ў 1935 годзе, два — на Грабарцы ў 1988, і адзін — падчас другога „Басовішча" (1991 г.). Ужо хаця б з гэтага відаць, што дыяпазон закранутых у кнізе спраў — вельмі шырокі. Таму чытач не знойдзе ў ёй вычарпальнай інфармацыі пра меншасці ў Польшчы, а ўсяго толькі зазначэнне праблемы, выкарыстанне вобразаў-сімвалаў.

„Калі нават польская навука не можа даць на сённяшні дзень, — напісаў ва ўступе праф. Веслаў Владыка, — па меры магчымасцяў, вычарпальнага сінтэзу гісторыі нацыянальных меншасцяў у Польшчы, дык напэўна можа паставіць маральныя ўказальнікі, як і можа супраціўіцца такім спосабам мыслення, што не паддаюцца навуковай праверцы".

Міністэрства нацыянальнай адукацыі рэкамендуе гэту кніжку як дапаможнік на ўроках гісторыі ў сярэдніх школах. Калі будзе выкарыстоўвацца, маладыя палякі атрымаюць — напэўна вельмі часта — першасную крыніцу ведаў пра сваіх суграмадзян іншых нацыянальнасцяў прынамсі ў прыгожай форме.

**М.В.**

---------------------

*) *Inni wśród swoich*, Instytut Badań Literackich PAN, Warszawa, 1994

# ІКОНЫ

**Частка XVI**

Я ўжо гаварыў, што мая маці, у адрозненне ад бацькі, была жанчынай веруючай і рэлігійнай. Час ад часу чытала Біблію і гаварыла, што не ўсё з яе разумее, але ўсё, што ў ёй напісана — гэта напэўна праўда: „Бо ні можэ такого быці, каб у Свяшчэнным пісьме хтось лгаў. Можэ гэту кніжку напісаў Бог або вельмі разумны чалавек на боскі прыказ". І толькі адзін раз у жыцці быў я сведкам яе выказвання, з якога вынікала, што прынамсі адно з біблейскіх сцвярджэнняў выклікала ў яе сумненні. Сказанае адносілася да страшнага суда. Аднойчы ў час размовы з суседкаю, маці сказала: „Чы можэ быці такое, каб людзі каторы на зямлі ўміралі тысячы лет, узялі ўсе і васкрэслі? То ж іх цело, зубы, косці, кроў сталі толькі попелам. То якжэ з гэтаго попелу зноў васкрэснут людзі?"

На мае пытанні, звязаныя з іконамі, маці ў 1970 годзе сказала наступнае:

„Што ты мяне пытаеш пра такія рэчы. Я ж дурная вяскова баба. Іконы былі ў маіх дзядоў, былі ў бацькоў і ест у мяне. Ты таксамо павінен меці ікону ў сваёй кватэры. Кватэра без іконы, то кватэра пустая. У ёй німа Бога, а без Бога то жыці добрэ ні можна. Ну, ты сам знаеш, што бацько твой ніверуючы, ніколі ні маліўсе і ў цэркву ні хадзіў. Зрэштаю, хто тут з бандарцоў ходзіт у цэркву? Ніхто. От, бабы крышку ходзят, але мужчины навет ні думают аб гэтом. Ну, але трэбо сказаць, што стары мне ніколі ні перашкаджаў ані ў цэркву хадзіці, ані маліцца, ані вас хрысціці, ані вучыць вас пацеру.

Заўшэ гаварыў: „Гэто твае дзело, калі верыш то сабе вер. Калі хочэш маліцца, то сабе малісе. Я табе ў гэтым ні перашкаджаю". І так яно і было. Напраўду. Ну, а я таксамо да яго ні мешалася, жыў як сам хацеў. Я то ўсё жыце верыла. Сіхібо я ніколі табе аб гэтом ні гаварыла, ну, значыцца ні гаварыла, што будучы дзяўчуком хадзіла ў Кіеў у Пячэрскую лаўру. А было гэто можэ лет з пяць перад японскаю вайною. Мне тады было можэ лет дванаццаць або трынаццаць. Значыцца, семяноўскія бабы, а разам з імі і мая маці, пастанавілі ісці ў Кіеў. Ну то я тады прычэпілася да мацеры ні на жарты. Значыцца, каб яна ўзяла і мяне з сабою. На пачатку то маці навет і слухаць ні хацела, але я так уперлася, так прасіла, і так маліла, і так плакала, што ўрэшце мама згадзіліся мяне ўзяці. Ну, нас усіх разам было так каля дзесяці бабаў. Кажда мела мяшок за плячыма, а ў мяшку то мы мелі сухары, сушану рыбу і сушаны сэры, ну і беллё. Цяжко было, можэ так фунтаў з дваццаць пяць. Я хоць і была малая але сілу мела і хадзіла шпарко. Ні кажды дарослы мог за мною зысціся. Пашлі мы летам, можэ гэто быў чэрвец або ліпец, дакладно ужэ ні помню, гэто ж больш як семдзесят лет ужэ прамінула з таго часу. Адыходзячы пашлі мы ў цэркву, доўго маліліся і прасілі Бога, каб нам памог у дарозі, каб памог дайсці да Кіева і вярнуцца назад. І Бог нам памог.

Ну, што я запомніла з тае доўгае дарогі? Много запомніла, але напэўно і много забыла. Я тады ужэ ўмела пісаці, бо мне сказалі, каб я хімічным карандашом запісвала на лістку паперы дні, каторы праходзілі і тыя месяцы, праз каторы мы ішлі. Але ужэ на пяты дзень застала нас вяліка бура з дажджом. І гэты дождж расквасіў мой папер так, што ні можна было нічого на ім прачытаці, а карандаш таксамо расклеўся і сярэдзіна раскрышылася. Ну то после гэтаго я ужэ ні запісвала, толькі на вяровачцы пасля каждаго дня вечаром завязвала гузельчык. Ну і калі мы ў канцы канцоў зайшлі ў Кіеў, то аказалася, што гэтых гузельчыкаў было на вяровачцы дваццаць дзевяць. Гэто значыт, што ішлі пачці цэлы месяц.

Божэ мой мілы, чаго мы толькі па дарозі ні бачылі і чаго ні пережылі".

**Алесь Барскі**

# Сустрэча з паэзіяй

Пад канец мінулага года ў Дом „Ольштыньскай газеты" на Рыбным пляцы прыйшла немалая грамада людзей, зацікаўленых паэзіяй, паслухаць вершы Тамары і Антона Яноўскіх. Гэта сустрэча была прэзентацыяй іхняй кнігі выдадзенай „Дэкорай". Выданне кнігі дафінансавала Культурная супольнасць „Барусія" і яна арганізавала паэтычную сустрэчу.

Паэзія Тамары Болдак-Яноўскай (чыталі мы пра яе ўжо ў „Ніве"), як сказаў паэт Казімеж Браканецкі з „Барусіі", ёсць паэзіяй усходу, Беларусі, пагранічча. Падобныя вершы і Антона. Іх паэзія прамаўляе агульначалавечым голасам, простымі і важнымі думкамі штодзённай размовы. Нетанная (100 тысяч злотых) кніга раскупілася як... свежыя булачакі!

**Андрэй Гаўрылюк**

# Каляднае пасланне

*Працяг са стар. 1*

вадыроў; мы ж, Хрыстовы, збіраемся вакол Цара Царствуючых, Цара Нябеснага. Адказам нашым на знакі і пячаці „звяра і лжэпрарока", аб якіх папярэджвае Божае Адкрыццё, няхай будзе знак Крыжа Хрыстовага: гэтым пераможам, з намі Бог!

З намі Бог, чалавек, які сышоў з нябёсаў на зямлю дзеля нас, і які ўчалавечыўся дзеля нашага збавення. З моманту нараджэння свайго Ён з намі і ў нас прабывае Духам Святым па шчырым сваім абяцанню: „Вось Я з вамі ва ўсе дні да сканчэння веку" (Мф., 28: 20). Нашу неразлучнасць з Хрыстом перажываем і пацвярджаем у светлае свята Раджджаства Хрыстова, калі Царква спявае: „Хрыстос нараджаецца — усхваляйце".

Гэтымі словамі вітаю Усіх Епархіян: Богалюбівае Духавенства, Шаноўнае Манаства, Вас Браты і Сёстры, Моладзь і Дзяцей. Жадаю Усім, каб невячэрняе Свято Хрыстовае прасвятляла Усіх і напаўняла духоўнай радасцю сэрцы нашы, даравала цялеснае здароўе так неабходнае для плённага служэння Святой Царкве Праваслаўнай. Няхай жа калядная радасць не пакідае нас ніколі.

Няхай Новы 1995 год будзе годам Гасподняй дабрыні для Святой Царквы, Айчыны і Кожнага з Нас.

**Хрыстос нараджаецца — усхваляйце!**
**Хрыстос нараджаецца — страчайце!**

**+ Сава**
**Архіепіскап**
**Беластоцкі і Гданьскі**

*Беласток — Гданьск,*
*Раждаство Хрыстова 1994 г.*




CZYKWIN Jan: Odnawianie pamięci. (Białoruskie Stowarzyszenie Literackie w Polsce „Białowieża"). *Wiadomości Kulturalne* 1994, nr 10, s. 8.

EBERHARDT Piotr: Przemiany narodowościowe na Białorusi w XX wieku. *Przegląd Wschodni* 1992/93, z. 3, s. 527-556, rys., tab., Sum.

Eberhardt Piotr: Polska granica wschodnia 1939-1945. Warszawa 1993; Rec. JURZYK Maria, *Dzieje Najnowsze* 1994, nr 1, s. 172-175; ROSTOCKI Władysław, *Przegląd Wschodni* 1992/93, z. 3, s. 718-724.

HLEBOWICZ Adam: Przyszłość Kościoła katolickiego na Białorusi. *Więź* 1994, nr 1, s. 134-138.

HRYCKIEWICZ Walentin: Stan nauki i dydaktyki historii na Białorusi. Tł. z ros. Stefan Rakowski. *Przegląd Wschodni* 1992/93, z. 3, s. 697-711.

JANECKI Stanisław: Między Moskwą a Europą. (Wybory prezydenckie). *Wprost* 1994, nr 27, s. 55, il.

KABZIŃSKA-STAWARZ Iwona: Polacy na Białorusi. Relacja z badań etnograficznych nad współczesnym procesem kształtowania się świadomości etnicznej. *Przegląd Wschodni* 1992/93, z. 3, s. 681-695. Sum.

KOCHANOWSKI Jerzy: Porucznika Birnbauma „Dziennik rokowań pokojowych w Mińsku 14-30.VIII.1920 roku". *Przegląd Wschodni* 1992/93, z. 3, s. 645-662. Sum.

Lokotko A. I.: Belarusskoe narodnoe zodčestvo serediny XIX — XX v. Minsk 1991; Rec. CZAJKOWSKI Jerzy, *Materiały Muzeum Budownictwa Ludowego w Sanoku* 1993, nr 31, s. 133-137, rys.

MOŻEJKO Eugeniusz: Zwrot ku przeszłości. (Ukraina i Białoruś). *Życie Gospodarcze* 1994, nr 30, s. 12, il.

MROZIEWICZ Krzysztof: Jeszcze bliżej Rosji. (Wyniki wyborów prezydenckich na Białorusi i Ukrainie). *Polityka* 1994, nr 30, s. 11, il.

NOWAK Andrzej: Polityka wschodnia Józefa Piłsudskiego (1918-1921). Koncepcja i realizacja. *Zeszyty Historyczne* 1994, z. 107, s. 3-22.

POLSKIJ Spartak, SAWCZENIA Aleksander: Polityka narodowościowa na Białorusi w latach 1924-1939. Tł. z ros. Krystyna Damm. *Przegląd Wschodni* 1992/93, z. 3, s. 663-680, rys., tab., Sum.

SIKORSKA-KULESZA Jolanta: Weryfikacje szlachectwa jako instrument stanowej degradacji drobnej szlachty na Litwie i Białorusi w latach 1831-1868. *Przegląd Wschodni* 1992/93, z. 3, s. 557-572, tab.

SOKOŁOWSKI Aleksander: Przyroda Puszczy Białowieskiej i jej ochrona. *Kosmos* 1994, nr 1, s. 87-99, mapy, Sum.

WILCZAK Jagienka: Ulica Sowiecka — zapach przeszłości. (Perspektywy współpracy gospodarczej z Polską). *Polityka* 1994, nr 27, s. 13, nr 30 dod., s. I-II, il.

P.C.

# Хлеб са сваёй печкі

*Працяг са стар. 5*

працую, дык чалавек мой расчыняе, а я прыду і пяку. А так то сама. Хлеб не можа расці занадта доўга. Я ўсаджу хлеб у гарачую печ, дванцаць мінут пасядзіць, тады праверу: калі ўжо колер натуральны — накрыю тоўстай паперай, каб больш не загарваў, і хлеб увесь час жоўценькі.

У хлебную печ Анны Стэльмашук месціцца якраз шэсць бляшак. Але калісь спякла круглы хлеб і макам высыпала: „Уладыка Сава" і праваслаўны крыж. Ужо на розныя праваслаўныя імпрэзы разоў дванаццаць пякла хлеб. Не так даўно, восенню, пякла яго на сустрэчу Праваслаўнага брацтва.

Хлеб Анны Стэльмашук заўважылі, калі спякла яго з нагоды высвенчання царкоўкі святога Панцеляймона ў Засценках. Ужо больш года будзе, бо адпуст той быў 9 жніўня. Уладыка Сава спытаўся, хто пёк гэты хлеб. Ну, і людзі сказалі. Я нават баялася, што ўладыка, як даведаецца, што пякла яго старая баба, дык не схоча есці...

— Маладыя хлеба не пякуць... — кажу.

— Ведаеце, здаецца, я такая старая, а ў душы такая маладая...

* * *

Калі прыехала я на другі дзень, каб паглядзець, як будзе пячыся хлеб, і парабіць здымкі, падросшы ў бляшках хлеб з пасыпанымі макам праваслаўнымі крыжамі ўжо стаяў на пліце. Падыходзіла гадзіна, каб садзіць яго ў печ.

Яшчэ толькі далікатнымі рухамі далоні Анна змачыла яго вадой. Выграбла з печы лішні жар і пачала ўстаўляць хлеб у печку. „Раман, не ўваходзь! — папярэдзіла сына, якога ўбачыла праз вакно. — Ну, ужо можна!" — і дзевятнаццацігадовы токар Раман, яе наймалодшы, пачынае з намі гутарыць на цудоўнай беларускай мове.

І так усе, што сабраліся ў хаце на пячэнне хлеба пры суботе. Таксама і пляменнік, сястрын сын, паліцыянт з Беластока, з жонкай — гавораць чыста па-беларуску.

Праз няцэлую гадзіну хлеб гатовы. Анна ізноў дакранаецца да яго мокрай рукою — каб хрумсцела скарыначка. Запах на ўсю хату! Залацісты, прыгожы. Частуюцца ўсе, мажуць яго маслам, хаця сямёрцы ўнукаў лепш смакуе салодкае. У хаце свята.

Пасля цётка Нютка паложыць яго ў дзежку, накрые сціračкай, каб не чарсцвеў. Але мне можа быць і чэрствы, кажа яна, ад малога баюся застацца без хлеба.

Старэйшы сын, яшчэ нежанаты, бо ўнукаў мае яна па дочках, часамі кажа: „Мама, мы дакупім гарадскога хлеба!" Але Анна непахісная. „Купляйце, калі хочаце, — кажа. — А я думаю, што калі ўжо есці, дык хлеб са сваёй печкі".

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**



*Прыемна глянуць на працу сваіх рук. А хлеб залацісты і пахучы.*

# РАДЖДЖАСТВО ХРЫСТОВА

**Кандак:**
*Сёння Дзева ідзе невымоўна радзіць прадвечнае Слова; радуйся, сусвет, пачуўшы пра гэта, праслаў з анёламі і пастухамі Дзіця, што хоча з'явіцца — прадвечнага Бога.*



Раджджаство Госпада нашага Ісуса Хрыста — гэта свята, падчас якога ўспамінаем сашэсце на зямлю Сына Божага. Прыгожа заяўляюць аб гэтым словы калядкі: „Неба і зямля": „Слово Отчее взяло на Сия тело, в темностях земных солнце засветило...". Абяцанне прыходу Таго, хто пераможа сілу шатана, даў Бог першым людзям яшчэ ў Раі пасля іх грэхападзення (Быццё, 3:15). Нараджэнне Хрыста было здзяйсненнем гэтага абяцання. Каб людзі не забылі гэтага, мелі яны абавязак прыносіць Богу ахвяру, якая адначасна была праобразам Збавіцеля. Многія прароцтвы дакладна акрэслілі час, месца і акалічнасці нараджэння Хрыста (Ісаія, 7:14; Міхей, 5:2; Данііл, 9:21—27). Само аднак увасабленне засталося вялікай тайнай недасяжнай нам Божай волі, скрытай нават перад Анёламі.

Раджджаство Хрыстова — самае радаснае свята. Ушаноўваем тады гонар і хвалу Богамладзенца Хрыста, які прыйшоў на зямлю, каб прынесці нам збавенне. Усе імкнемся ў гэтыя дні быць з сям'ёй. Многія, у якіх бацькі ці сваякі жывуць на вёсцы, едуць да іх. Святочны настрой на вёсцы ўсё ж такі іншы, чым у горадзе, асабліва ў Беластоку. У такіх кварталах як Засценкі, Грабаўка ці Дайлiды, дзе жыве адносна многа праваслаўных, у большай ступені адчуваецца святочная атмасфера, чым у раёнах са шматэтажнымі блокамі.

Вышэйсказанае сцвярджаюць дзеці, якія хаця б адзін раз правялі святы на вёсцы. Калі два гады таму большасць людзей з-за галалёду не маглі выехаць з Беластока, дык пазней на ўроках рэлігіі дзеці выказваліся, што святкаванне Раджджаства ў горадзе адрознівацца ад вясковага. Асабліва запомніліся ім начная язда ў царкву і калядаванне са звяздой.

Аднак усюды людзі намагаюцца, каб святочны настрой панаваў у іх кватэрах. Хаця традыцыйнай беларускай каляднай стравы — аўсянога кісялю ў місцы, ужо не сустрэнеш, але куцця мусіць быць абавязкова. У многіх дамах пад абрус кладуць яшчэ сена, якое ў некаторых вёсках Беласточчыны дванаццаць гадоў таму назад клалі на стол у такіх колькасцях, што ажно талеркі і міскі са стравамі перакульваліся ва ўсе бакі.

На Куццю ўсе стараюцца не есці аж да ўрачыстай вячэры, таксама і дзеці. Згадваецца мне ў гэтым месцы расказ аднаго чалавека з Трасцянкі, народжанага 6 студзеня, на Куццю. Калі ў гэты дзень прынёс ён у школу цукеркі, каб пачаставаць імі сваіх калег, дык яны цукеркі ўзялі, але не елі. Усе ў гэты дзень пасцілі, чакаючы першую зорку. Цукеркі з'елі на другі дзень.

Жадаю, каб святы прайшлі нам не толькі за сталом, але перш за ўсё з нашай прысутнасцю ў царкоўнай малітве, пры спяванні калядак, усхваляючых нованароджанага Хрыста, у настрої, які добра адлюстроўвае ніжэйпрыведзеная калядка:

*Свецяць, свецяць зорачкі,*
*Зоркі брыльянцістыя,*
*На палі, на ўзгорачкі,*
*На лясы цяністыя.*
*Ціша сёння ўвечары*
*На ўвесь свет пасцелецца,*
*Залатымі шышкамі*
*Мы асыплем елачку.*
*Загарымся свечкамі*
*Залатымі, яснымі.*
*Слава Богу ўзвышняму,*
*На зямельцы шчасцейка.*

С.Н.

*З гісторыі беларускага нацыяналістычнага руху на Беласточчыне*

# КУПТЭЛЮ ТРЭБА ВАЙНЫ?..

З зацікаўленнем прачытаў я адгалоскі нейкага М. Куптэля „Беларусы ў запаведнік?" у „Ніве" н-р 43 (2006) ад 23.X.1994 г., с. 9. Але чаму ён падпісаўся па-ўкраінску М. Куптэль, а не па-беларуску — М. Купцель? Каб падлізацца нам, украінцам?.. М. Купцель павінен ведаць, што падлізнікаў ніхто і нідзе не любяць. (...)

Піша ён, што я быццам бы „адкройваю частку Беласточчыны на поўдзень ад Нарвы для ўкраінцаў"! Прытым спасылаецца ён на маю публікацыю ў 16 нумары цэнтральнага польскага штотыднёвіка, што выходзіць у Варшаве, „Вядомосьці культуральнэ". Нядрэнны з мяне нажоўшчык, каб так раптам узяць і адрэзаць сямідзесяцікіламетровы ўчастак зямлі з усходу на захад у карысць украінцаў! Купцель непатрэбна прыпісвае мне магічныя здольнасці. Я ж не кіеўскі Кашпіроўскі!

Купцель пераацэньвае таксама маю ласкавасць у адносінах да беларусаў. Ён, дзівак, думае, што аддам беларусам такія вёскі, якія ўжо знаходзяцца на правым беразе Нарвы, як Адрынкі, Трасцянку, Рыбалы, Войшкі і суседнія з імі, у якіх нашыя людзі на штодзень гавораць насуперак „ліцвінам" па-хахлацку. Памыляешся, Міхась! Не толькі што не аддам, а яшчэ ад цябе забяру! У сваю чаргу забірай сабе такія вёскі, размешчаныя па левы бок Нараўкі, як Біндзюгу, Парослае, Капітаншчыну, Ахрымы, Бярнацкі Мост, Скупава ці Тэраміскі. (...)

Я тут не супраць нашых братоў-беларусаў! Толькі яны самі ведаюць колькі ж я для іх зрабіў на працягу свайго кароткага яшчэ жыцця! Не абазначае, аднак, гэта, што я не быў верны свайму народу! Наадварот — і надалей лічу, што мы як мацнейшая за іх тут на Бельшчыне, Гайнаўшчыне і Сямяціччыне ды наогул нацыя і надалей павінны памагаць нашым братам-беларусцам з-за Нарвы. Мы, бач, тут усе праваслаўныя, а яны падзелены: на праваслаўных і каталікаў. У такіх умовах адраджаць сваю нацыю ім нялёгка, але і яны маюць сваіх тут гераяў, як хоць бы і барацьбіта з камунай айца Юрыя Папялушку з-пад Сухаволі! Нездарма ж ягоным іменем названы ў гэтым мястэчку ў цэнтры Еўропы агульнаадукацыйны ліцэй. Таму трэба, каб і ў ім уваскрос беларускі дух гэтага беларускага патрыёта, каб і ў ім закрасавалася на ўроках сакавітая беларуская мова! (...)

Сёння ж дзейнічаюць усялякія камітэты абароны правоў чалавека, можаш нават індывідуальна пісаць скаргу на ўрад і ягоную палітыку па адносінах да нацыянальных меншасцей у французскі Страсбург, а паспрабаваў бы ты бараніць праследаваных у Кляшчэлях украінцаў яшчэ ў цалкам нядаўні час! Зразу б атрымаў ты воўчы білет, а раней, магчыма, што і паехаў на бясплатную экскурсію ў Салаўкі! Нешта такое і здарылася са мною ў „Ніве" яшчэ ў цалкам нядаўні час! За тое, што бараніў Івана Кірызюка, які пісаў свае вершы крывяцкай гаворкай (паводле С. Яновіча — украінскай) ды прачытаў я супольна з сённяшнім рэдактарам украінскіх радыёперадач у Беластоку Яўгенам Рыжыкам на вогнішчы ў Рагачах некалькі вершаў нацыянальнага прарока Украіны Тараса Шаўчэнкі, узначаленыя тагачасным І сакратаром партячэйкі ПАРП у „Ніве", тав. рэд. Міхасём Хмялеўскім, партыйныя таварышы — верныя вучні Вялікага Айца Народаў, якія закончыўшы маскоўскія, ленінградскія і мінскія вышэйшыя навучальныя ўстановы ў пяцідзесятыя гады, забралі з сабою з ягонай Вялікай Бацькаўшчыны на нашу Беласточчыну чужы нашаму народу дух, ідэі і паводзіны, 22 снежня 1983 г. на партыйным сходзе прызналі мяне „агентам Украінскай Паўстанчай Арміі" і сказалі ісці прэч з рэдакцыі!...

Адбылося гэта не без удзелу і іншага, амаль да канца 1970 г. вернага вучня свайго Бацькі — вялікага Пісьменніка, які добра падрыхтаваў пад гэта адпаведную глебу. Яго ўжо ўлетку 1983 г. бельскія ўкраінцы падчас аўтарскай сустрэчы ў Клубе БГКТ у гэтым княжым горадзе „выгналі за Нараў"! (...)

Пішаш, Міхась, што гэта быццам бы „брак палітычнай пранікліваці тагачасных беларускіх дзеячаў-выдаўцоў давядзе да бельска-гайнаўскай сэцэсіі"? Судзячы па тым, што ў той час і пазней, а таксама і цяпер яшчэ вырабляліз намі і надалей вырабляюць некаторыя вядомыя беларускія актывісты, як прыніжалі яны нашу чалавечую годнасць і нацыянальны гонар, з добрасумленных людзей рабілі „бандытаў", „упоўцаў", „украінскіх агентаў", „рэзуноў" і „шпіёнаў", „творцаў бельскіх курэняў" і г.д., і да т.п., колькі выпілі яны на нашыя чыстыя галовы памыяў, — лічу іх не тое, што пазбаўленых палітычнай пранікліваці, а галоўных і заядлых творцаў гэтага ўкраінскага руху на Бельшчыне і Гайнаўшчыне!.. І гэтую маю думку пацвердзяць і іншыя сведкі гэтых падзей. Ім гэты ўкраінскі рух быў патрэбны, каб, ствараючы міфічнага ўкраінскага ворага, кансалідаваць свае беларускае асяроддзе! (...)

Пры ўсім гэтым, Міхась, ёсць і заканамерныя працэсы. Гэта не так, што быццам бы беларусы стварылі тут украінскі рух, хоць вельмі многа і сапраўды ў гэтым праўды! (...)

Раскрываю тут табе, Міхась, універсальныя механізмы палітыкі, якія такім ракавым чынам паўплывалі на маю з табою нацыянальную свядомасць! Былі і ёсць людзі зацікаўленыя якраз у такой нацыянальнай палітыцы! (...)

Хвалюе цябе, Міхась, тое, што на старонках варшаўскага штотыднёвіка прапаную я мірным шляхам развязаць наш беластоцкі нацыянальны гордзіеў вузел цэлымі дзесяцігоддзямі ўмела завязваны камунякамі?.. Мала табе яшчэ Нагорнага Карабаха, Прыдняпроўя ды Босніі і Герцагавіны?.. Патрэба табе вайны?.. Патрэбны табе крык, каб за нейкія чужыя грошы купіць не свае сумленне і нацыянальнасць?.. Мала табе яшчэ адной этнічнай чысткі, якая праводзілася тут паўстагоддзя?.. Патрэбная табе новая?.. У цэнтры Еўропы?..

Як бачыш, Міхась, патэнцыяльныя мае, магчыма, што ўжо і не так далёкія, продкі прусы ўцякалі ў свой час ужо раз некалькі стагоддзяў таму назад перад крыжаносцамі, я ў сваю чаргу не так ужо й даўно, таму што 10 гадоў таму назад — перад беларускімі „крыжаносцамі"!

**Юры Трачук**

**P.S. Міхасю Андрасюку:**

Адносна падабранай шапкі на вяселлі ў Косай Гапкі ў вёсцы Сучкін Сад М. Андрасюку („Ніва" н-р 50 (2013) ад 11.12.1994 г., с. 3), аўтару „Шарыка" прапаную ў гэтай справе звярнуцца да кампетэнтнай асобы — пісьменніка Сакрата Яновіча. У яго адмысловыя шматгадовыя фізічныя і метафізічныя сувязі з паліцыяй. Як піць даць, знойдзецца зразу! Хоць з мяне не кароль Сцяпан Баторый, але, як патэнцыяльны патомак прусаў, Інфлянты ахвотна б я ад Вас узяў, калі б былі яны Вашымі.

**Ю. Т.**




W tygodniku Waszym nr 43 z dnia 23 października 1994 r. został zamieszczony artykuł redaktor Kondraciuk pod nieco dziwnym, według mnie tytułem, "Sprawa Mieleszki" i także dziwnej treści.

Dlaczego artykuł ukazał się w Waszym czasopiśmie, skoro nie prowadziłem z Wami żadnej korespondencji i nie udzielałem wywiadu. List na temat niezgodności liczbowych związanych z wyborami do Rady Gminy adresowałem do "Przeglądu Prawosławnego". Informacja przedstawiona w tym czasopiśmie okazała się faktycznie nieścisła, za co w nr 9/94 czytelnicy zostali przeproszeni.

Redaktor "Niwy" p. Kondraciuk z niewiadomego mi powodu ruszyła do generalnego ataku na mnie, jako groźnego przeciwnika Białorusinów, kultury i tradycji białoruskiej. Przedstawione zostało "dochodzenie" począwszy od pijaków, poprzez Wójta Gminy w Gródku, kończąc na członkach Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego. O fakcie takim zostałem natychmiast powiadomiony przez osoby postronne, dlatego odmówiłem jakiejkolwiek rozmowy z p. redaktor. Pani Kondraciuk mając mój adres powinna była przeprowadzić najpierw rozmowę ze mną, skoro uważała, że ponoszę jakąś winę.

Pierwszy wypowiada się p. Leon Tarasewicz — światowej sławy artysta plastyk twierdząc, iż "Polak prawosławny" jest wymysłem białostockich czasopism. W audycji radiowej "Seminarium o tolerancji" prof. Andrzej Sadowski z Zakładu Socjologii Filii Uniwersytetu Warszawskiego w Białymstoku stwierdza, iż "ponad 50% prawosławnych czuje się Polakami", podobnie p. Leszczyński prowadzący audycję "Pod znakiem Pogoni" twierdzi, że tereny te są w 80% zamieszkałe przez prawosławnych, z których część deklaruje się Białorusinami.

Młodzieńcze lata spędziłem na ziemi gródeckiej we wsi Waliły Stacja i nie spotkałem się tu z mową czysto białoruską. Rozmawiało się i dzisiaj w większości rozmawia "po prostu" czyli mieszaniną słów polskich i białoruskich. Mowę tę słyszy się także wśród katolików, np. w miejscowości Podozierany.

Zdziwiła mnie bardzo wypowiedź duchownego prawosławnego, iż "nie spotkał się z tym, żeby ktoś z parafian liczył siebie prawosławnym Polakiem". Być może tylko ja jestem prawosławnym Polakiem.

Radny p. Mikołaj Adamik — sołtys wsi Gródek, były podoficer zawodowy Ludowego Wojska Polskiego, obecnie członek Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego w Gródku twierdzi, iż "wygodnie żyć na świecie ludziom, którzy chylą się to w jedną, to w drugą stronę". Widocznie p. Adamikowi jest tak wygodnie żyć. Myślę, iż p. Adamik podziela poglądy p. Czykwina — Redaktora Naczelnego "Przeglądu Prawosławnego", który w audycji radiowej stwierdził "kto chce być w Polsce Polakiem to jego sprawa. Niech stara się, daj mu Bóg zdrowie..."

Na temat kultury tych ziem nie wypowiadałem się w swoim liście do "Przeglądu Prawosławnego". Dziękuję przewodniczącemu Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego p. Aleksandrowi Karpiukowi za przedstawienie historii i historycznych postaci ziemi gródeckiej. Myślę, iż te fakty powinny być przedstawione w Szkole Podstawowej w Gródku na lekcji historii czy też j. białoruskiego, na który uczęszcza zaledwie 45 dzieci z 650 uczących się w szkole.

Pan Leon Tarasewicz proponuje, abym napisał historię polskiej tradycji w Gródku, od tego są historycy jak, np. przewodniczący Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego. Myślę, że Pan "mieszkając na tej ziemi, reprezentuje Polskę jako malarz w kraju oraz poza jej granicami".

Oszczerstwem jest, że jestem opozycjonistą Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego i białoruskości ze względu na to, że nie sprzedano mi pomieszczeń Lecznicy dla Zwierząt w Gródku, którą dzierżawię. Taka była wola Rady Gminy i z tym faktem pogodziłem się. Nadmieniam, że są prowadzone starania przez Krajową Izbę Lekarsko-Weterynaryjną, aby stworzyć możliwość wykupu lecznic przez lekarzy weterynarii niezależnie od ich obecnych "właścicieli".

Podczas wyborów do Rady Gminy należałem do zorganizowanego Komitetu Wyborczego "Razem". W skład jego wchodzili: prawosławni i katolicy, a także mogli należeć obywatele różnej narodowości. Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne uważając się za jedynego przedstawiciela tut. ludności ostro zwalczało ten Komitet. Przykładem tego mogą być wyniki wyborów podane w "Przeglądzie Prawosławnym", "wygrało Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne — 18 mandatów", faktycznie 12 mandatów, 5 osób z Komitetu Wyborczego "Razem" i 1 niezależny.

Na łamach "Czasopisu" p. Tarasewicz wypowiada się "... tu powoli sytuacja się normalizuje. Ludzie przekonują się, że są u siebie", a gdzie byli do tej pory?

Myślę, że artykuł "Sprawa Mieleszki" jest to dalsze działanie Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego mające na celu zdyskredytowanie członków byłego Komitetu Wyborczego "Razem" w oczach społeczeństwa Gminy Gródek.

Reasumując stwierdzam, iż p. Kondraciuk przeprowadzając swoje "dochodzenie" naruszyła moją godność osobistą. Ponadto artykuły tego typu mogą spowodować zwiększenie nienawiści oraz podziały wśród miejscowej ludności.

Dlatego proszę o opublikowanie mego listu w całości oraz przeproszenie mnie na łamach Waszego czasopisma.

**Dariusz Mieleszko**

**Ад рэдакцыі:** Нашая журналістка Г. Кандрацюк запісала толькі выказванні жыхароў Гарадка ў сувязі з Вашай занатоўкай у „Przeglądzie Prawosławnym". Ніхто з выказваючыхся не скрываў свайго прозвішча, ніхто таксама да гэтай пары не адкілаў сваіх слоў. Вам перш за ўсё была дадзена магчымасць прадставіць свае меркаванні. Вы першыя пачалі дыскусію на тэму нацыянальнасці насельніцтва Гарадоцкай зямлі, а рэдакцыя не можа перапрашаць Вас за тое, што людзі маюць у гэтай справе іншыя погляды.

# Ёй цыганка варажыла...

Арлета была адзіным дзіцём у Віялеты і Яцка. Прыгожая дзяўчына. Аднойчы цыганка клала ёй карты і сказала, што ў жыцці прыйдзецца ёй быць самотнай.

— А-ёй! — смяяліся з гэтага бацькі і суседзі. — Такая прыгажуня — каб была адзінокай? Хто ёй дасць!

Арлета закончыла эканамічны студыум і стала на працу ў кантору. Праз год выйшла замуж. Жылі ў сям'і згодна, пакуль на працу не настаў новы кіраўнік. Улюбіўся ў прыгожую супрацоўніцу і запрапанаваў ёй стаць яго каханкай. Арлета адказала, што хоча быць вернай мужу. Кіраўнік з ухмылкай сказаў:

— Не хочаш быць са мной, не будзеш і з мужам.

Сказаў мужу Арлеты проста ў вочы, што яго жонка — яго каханка, і робіць з ёю што хоча і дзе хоча, гатова нават ісці на развод, каб быць з ім далей. Той паверыў. Не памаглі тлумачэнні Арлеты, падаў у суд на развод. Сведкам быў сам кіраўнік.

Кіраўнік выехаў на захад Польшчы. Арлецін муж узяў другую жонку.

Арлета была ў шоку, паклалі яе ў бальніцу. Прыехала да бацькоў. Сказала ўсім, што нікога больш не будзе шукаць сабе ў пару і застанецца самотнай.

— Мяне лёс таму, пэўна, так пакрыўдзіў, што прыгожай вырасла. Нашто мне краса, калі шчасця няма?! Праўду мне тады цыганка сказала...

Цяпер у Арлеты нават і бацькоў няма. Памерлі.

**Аўрора**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

**Даражэнькі Астроне!**

Во такога сну, як мне нядаўна прысніўся, пэўна, яшчэ ніхто не сніў. А было так. Я памёр. Людзі сабраліся на маё пахаванне. Я ведаю, што мяне хаваюць, але ў сувязі з гэтым не адчуваю ніякіх непрыемных эмоцый.

Усё адбываецца са мной, але як бы не датычыла мяне. Я — у цэнтры падзей і адначасова збоку.

І вось я ўжо бачу свой помнік. Дакладна відаць дата нараджэння. Але я ж не і так ведаю. Мне цікава было б убачыць дату маёй смерці. На двары стаіць восень. Усюды поўна пажоўклых дрэў, з якіх ападае лісце. Адзін кляновы лісток не даляцеў да зямлі, а затрымаўся на маім помніку, на самай таблічцы, інфармуючай пра дату нараджэння і смерці. Я не здаюся, стараюся неяк убачыць яе. Заглядаю з аднаго боку — але і лісток пахіляецца ў гэты бок. Тады я падыходжу з другога боку — і лісток пахіляецца туды. І так я не змог убачыць дату сваёй смерці. Цікавы сон, праўда, Астроне?!

**Тамаш**

Тамаш! Сон сапраўды надзвычай цікавы. Ды і маляўніча ты яго апісаў. Бачыш, у якую цэласць можа скласціся ўсё ў галаве чалавека ў час яго сну!

Чалавек спіць, але не спіць яго падсвядомасць.

А дату сваёй смерці ты не ўбачыў, бо як жа ты мог яе ўбачыць, калі яе не ведаў?! Асенні лісток, які затрымаўся на таблічцы, дамаляваў цэласць карціны твайго сну.

**Астрон**

## ВАРТА ВЕДАЦЬ

**Адкуль узялося беларускае слова „бульба"?**

Звычайнае беларускае слова **бульба** або такое ж звычайнае рускае **картофель**, ці сярэдняе між імі таксама беларускае, але ўжо мясцовае, дыялектнае **картопля**. Адкуль яно? З Амерыкі. На наш еўрапейскі кантынент яго прывёз ніхто іншы, як сусветна вядомы мараплавец Хрыстафор Калумб. Назва беларуская пайшла ад лацінскага **бульбус** або **больбус** — цыбуліна, круглы плод, клубень, што расце ў зямлі.

Вядома, што ў рускую мову слова **картофель** прыйшло з нямецкай, як пазычанае ў італьянскай мовы, дзе ёсць **тартуфель** або **труфель**. Так называюць падземныя грыбы, падобныя формай на клубні, цыбуліны. **Тартуфель** немцы перайначылі ў **картофэль**. У немцаў гэтае слова пазычылі палякі — **картофэль**. Да беларусаў яно прыйшло ад суседзяў, палякаў, але пашыралася не вельмі каб ахвотна. На Беларусі лепш прыжылося лацінскае **бульбус**, адкуль і ўтварылася неўміручае слова **бульба**. Дарэчы, яно ёсць і ў польскай мове, але там лічыцца мясцовым, ёсць у чэшскай, дзе гучыць — **бульва**, як утварэнне ад нямецкага **болле**, што таксама значыць клубень. Украінская мова спынілася на назве **бульба**.

**Адкуль вытокі слова „заўтра"?**

Беларусы, каб пазначыць надыход наступнага дня, карыстаюцца словам **заўтра**. Каб зразумець яго сэнс, трэба звярнуцца да рускага слова **утро** (раніца). Той дзень, які будзе **за утром**, надыдзе пасля раніцы, так і называецца **заўтра** (па-руску — **завтра**).

**Ясень**

## Зімародак — птушка чыстай вады

Калісь, калі я жыў у Відаве, бачыў над рэчкай Белай прыгожую каляровую птушку велічыні верабʼя, але не ведаў, што называецца яна зімародак. Вага яго дасягае 40 грамаў, а даўжыня даходзіць да 17 см. Мае вялікую галаву з доўгай дзюбай, кароценькі хвосцік, кароткія чырвоныя ножкі, зверху сіняваты, а ад споду — ржава-аранжавы. Выгляд яго так адметны, што нельга памыліць з іншай птушкай. Найчасцей сядзіць на ветках, якія звісаюць над вадою. Жыве побач вадаёмаў, закладаючы гнёзды найчасцей у норках у абрывістых берагах. Калі птушка ўбачыць рыбку ці воднае насякомае, кідаецца з веткі куляй у ваду, дзе і ловіць сваю дабычу; можа ныраць нават на глыбіню 1 метра. Калі выплывае, моцна б'е крыламі каб падняцца ў паветра. Кожная пара зімародкаў мае над вадаёмам сваю тэрыторыю, якую бароніць перад канкурэнтамі. У сакавіку — красавіку капаюць норкі глыбінёю 50—100 см; калі знойдуць прыгодныя старыя норкі — займаюць іх. У норцы у гняздзе самка адкладае 6—7 ячак, з якіх пасля 18—21 дзён выседжвання вылупліваюцца птушаняты. Бацькі кормяць малышоў безупынна. Малыя сядзяць кругом, які круціцца па меры таго, як бацькі прыносяць корм і такім чынам заўсёды корміцца найбольш галоднае птушаня. Пасля 21—27 дзён малыя вылятаюць, яшчэ некалькі дзён астаюцца на утрыманні бацькоў, пасля становяцца самастойнымі і расходзяцца. Пасля адхавання маладых, часта расходзяцца і бацькі: чыста так, як і ў людзей. Частка зімародкаў адлятае зімаваць на поўдзень і захад; частка астаецца. У марозную зіму, калі вадаёмы пакрываюцца лёдам, птушкі гінуць ад голаду; на шчасце такія зімы здараюцца рэдка. Вялікай небяспекай для зімародкаў з'яўляецца забруджанне вады: у мутной вадзе цяжка ўбачыць здабычу і рэдка яна там выжывае. Трэба спадзявацца, што будова ачышчальняў сцёкаў паспрые росту колькасці гэтых прыгожых птушак.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Залатыя... бабаўняныя

Увайшло ўжо ў звычай, што зараз святкуюць „круглыя" гадавіны шлюбнага жыцця. Перш за ўсё 25 гадавіну шлюбу — „сярэбраную" і пяцідзесятую — „залатую".

Варта аднак ведаць назвы чарговых гадавін шлюбнага жыцця ад першай да пятнаццатай. Вось яны: 1 — бабаўняная, 2 — папяровая, 3 — скураная, 4 — кветачная, 5 — драўляная, 6 — цукровая, 7 — медная, 8 — бронзавая, 9 — генеральская, 10 — свінцовая, 11 — стальная, 12 — палатняная, 13 — карункавая, 14 — слановай косці і 15 — крышталёвая.

Далей, што 5 год, шлюбныя юбілеі маюць назвы: 20 — фарфоравы, 25 — сярэбраны, 30 — жамчужны, 35 — каралавы, 40 — рубінавы, 45 — сапфіравы, 50 — залаты, 55 — брыльянтавы і 60 — дыяментавы.

**(яц)**

## ВУСЫ

За гарамі, за лясамі,
За мінуўшчыны гадамі
Жыло племя ў чыстым полі
Што не ведала нядолі.
Людзі тут жылі багата —
Круглы год было ў іх свята:
Не сеялі, не аралі,
Не садзілі, не капалі.
Елі сала і маліны,
Цыбулю і апельсіны,
Смятанаю папівалі
І на сонцы загаралі.
Калі ж сонца надаела,
Людзі браліся за дзела:
Хто да вераб'ёў страляў,
Хто лякарствы папіваў,
Хто за дзеўкамі ганяўся,
Хто палітыкай займаўся.
Вось палітыкі зышліся
І аспрэчваць узяліся
Што рабіць, каб даць народу
Яшчэ большую свабоду,
Каб людзі жылі багата,
Каб паўсюдна быў дастатак.
Гаварылі безупынна,
Каб павысіць прадукцыйнасць
Палёў нашых і палеткаў.
Каб, як кінеш вокам ўлетку
Збожжа ў сонцы зіхацела
Бляскам залатым ірдзела.
— Будзе толькі недарэчна, —
Сказаў Паэт Быкавечкін, —
Сярод грацыёзных ніваў
Сустракаць сяброў пляшывых,
У якіх аблог у галовах
Для ідэй і думак новых.
Трэба, думаю, адразу
Абмеркаваць згодна, разам,
Якой насадзіць культурай
Нашыя карыкатуры.
Тут устаў Рытар Трындушкін
І выстраліў быццам з пушкі:
— Што б прыгожа выглядаць
Трэба вусы гадаваць.
Вусы ж, ведаўце пра тое,
Упрыгожваюць герояў!
— Адмыслова! Класна! Удала!
Ідэальна! Дасканала! —
Усе ў экстазе закрычалі.
А калі ўжо пасціхалі
Класік Бардаслоў устаў
І з усмешкай падказаў:
— Калі вус хоч мець як венік,
Маж па губах угнаеннем!
Грымнуў залп апладысментаў
Быццам бомба ці ракета.
Калі ж гамана прыціхла,
Сказаў Паэт у словах сціплых:
— Вусы буйныя як венік
Мае Сябра Прэзідзеннюх.
І мы будзем вельмі рады
Паслухаць яго парады,
Які метад прымяняць
Каб вусікі ўзгадаваць.
Тут Сябра з павагай устаў,
Класіку паклон аддаў,
Смачна губы аблізаў
І ўрачыста адказаў:
— Дарагія браты і сёстры!
Метад мой даволі просты:
Сваю губу удалую
Па-французску я шмарую.
Там, у Парыжы, лабаранты
Вывучылі ўсе варыянты
Камбінацый элементаў
Касметычных кампанентаў.
І пасля практыкаванняў
Дайшлі да пераканання,
Што найлепшыя пароды
Растуць на ўлонні прыроды.
Я іх вопыт прымяняю:
У чыста поле выбягаю,
Носам пацягну і кветку
Вынюхаю на палетку,
Лён, каноплі адкідаю
І сцяблінку абхапляю,
Зашчамляю моцна губы
Каб не лезлі тычкі ў зубы,
Пялёсткі расхіляю
І нектар на вус матаю.
Пасля кветку падліваю
І, як пчолка, адлятаю.
Сябра скончыў. Люд знямелы
Слухаў яго цэлым целам,
Быццам кожны на палетку
Падліваў, каб расла, кветку.
Паэт прахапіўся першы
І рупліва нос абцершы
Патыліцу прычасаў
І з задумай разважаў:
— Гэты метад, Сябра мілы,
Не ўсе здолеюць асіліць.
У нас няма такіх традыцый:
Дзе-хто можа памыліцца...
Як у трыдзевятым царстве
У вярхоўным валадарстве.
Там вучоны Леў Вялікі,
Доктар навук мнагалікіх,
Вусаў буйных захацеў
І стараўся, як умеў.
Але метадаў замежных
Не апанаваў належна
Дый памыліў інструменты
І падмазкі кампаненты.
І ў яго пры той мітусні,
Гняздо ў вусах звілі буслы.
Ды ці ў нашага народа
Адпаведная парода?
Бо да кветак далікатных
Трэба вусаў акуратных.
Нашы ж вусы — дзеркачы,
Толькі ліпнуць смаркачы...
Прапаную на развязку
Бескантактную падмазку
Каб не блытацца, як Леў...
Аж тут Класік прагрымеў:
— Хочаш вусы мець як голле? —
Нюхай гной у аэразолі!
Схапіўся Загадчык Гладкі
І усклікнуў, б'ючы ў ладкі:
— Тэзіс Класіка ў нас
Даражэйшы ад каўбас!
І, каб шчасце даць народу,
Трэба нарабіць смуроду!
Дык прашу цяпер падняцца,
За работу шчыра ўзяцца!
Паслухмяна ўсе ўсталі
І мускулы напрагалі.
А высілак свой вялікі
Завяршылі гучным пшыкам.
За гарамі, за лясамі,
За мінуўшчыны гадамі,
У трыдзесятым царстве,
У вярхоўным валадарстве.

**Адам Маньяк**

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1995 r. upływa 20 lutego 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1 zł (10 000 st. zł), a kwartalnie — 13 zł (130 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# НОВЫ ГОД

Я нясу, як сонца,
Торт „Палёт",
Падарунак жонцы —
Новы ж год!

А дачцэ маленькай
Каверкот,
Каб пашыць сукенку —
Новы ж год!

Цёшчы, каб не брала
Ў абарот,
Каўбасу і сала —
Новы год!

Ох, пакунак цяжкі,
Аж на носе пот, —
Дзве яшчэ там пляшкі,
Новы ж год!

З'еў, нібы пузаты
Бегемот,
Тры мае зарплаты...
Новы год...

Мікола Алтухоў

# СЕНТЭНЦЫІ

Загвоздка ў тым,
што ўсюды загвоздкі.
* * *
Каб у чалавека была дзюба,
не балелі б зубы.
* * *
Між тым, што ёсць,
і тым, чаго няма, ляжыць жаданне.
* * *
Не давярай вірлівым стрэлкам,
падказваюць тупікі.
* * *
Не пытайся, куды ісці; той, хто
пакажа напрамак, сам блудзіць.

Барыс Руско





*— Цяпер злаўлю злодзея.* Мал. Я. Бусла

*Сяргей Даўлатаў*

## З „Запісных кніжак"

*(пачатак у папярэднім нумары)*

Я пытаюся ў паэта Наймана:
— Вы з Юрай Кацэнеленбогенам знаёмыя?
— З Юрай Кацэнеленбогенам? Нешта знаёмае. Імя Юра дзесьці мне сустракалася. Адназначна сустракалася. Прозвішча Кацэнеленбоген першы раз чую.

* * *

— Толя, — клічу я Наймана, — давайце пойдзем у госці да Лёвы Друскіна.
— Не пайду, — кажа, — нейкі ён савецкі.
— Як гэта, савецкі? Вы памыляецеся!
— Ну, антысавецкі. Якая розніца.

* * *

Звоніць Найману сяброўка:
— Толечка, прыходзьце абедаць. Вазьміце па дарозе сардзінак, такіх імпартных, мараканскіх... І яшчэ якога-нсбудзь варэння... Калі вам, вядома, гэтыя выдаткі не зробяць клопату.
— Зусім не зробяць. Таму што я не куплю ні аднаго, ні другога.

* * *

Размова з вучоным чалавекам:
— Ці існуюць пазазямныя цывілізацыі?
— Існуюць.
— Разумныя?
— Нават вельмі разумныя.
— Дык чаму яны маўчаць? Чаму не наладжваюць кантактаў?
— Вось таму і не наладжваюць, што разумныя. На хрэн мы ім здаліся?

* * *

Журналіста Косцю Белякова звальнялі з рэдакцыі за п'янства. Ішоў сход. Сябры хацелі яму дапамагчы. Яны сказалі:
— Косця, ты ж пастанавіў больш не піць?
— Так, я пастанавіў больш не піць.
— Абяцаеш?
— Абяцаю.
— Значыць, больш — ніколі?
— Больш — ніколі!
Косця памаўчаў і дадаў:
— І менш — ніколі!

* * *

Тамара Зібунова набыла стэрэафанічную радыёлу „Эстонія". З дапамогай знаёмых прынесла яе дадому. На лесвічнай пляцоўцы высіўся алкаголік дзядзька Саша. Тамара кажа:
— Вось, дзядзька Саша, купіла радыёлу, каб твой мат заглушаць!
У адказ дзядзька Саша нечакана выкрыкнуў:
— Праўды не заглушыш!

*(працяг будзе)*

**Выбраў і пераклаў**
**Ян Максімюк**

# КАЛЯДНЫ КАСЯК

**Направа:** 1. жонка біблейнага Якава, 2. Франк, амерыканскі акцёр і спявак, 4. дзейнасць, акцыя, 6. абрад калядавання, 7. пашкоджанне цела, 8. гарызонт, небакрай, 10. бацька біблейскай Равекі (Быццё, 24:15), 13. правінцыя і горад у Афганістане, 14. гвардзеец сярэдневяковага вяльможы або марка двухтактавых нямецкіх аўтамабіляў, 16. туды прыйшлі тры цары, 17. стараегіпецкі святы бык, 19. возера ў Аўстраліі, 20. каўказская каляска.

**Налева:** 1. маладыя расліны для перасадкі ў поле, 3. горад у Нідэрландах паблізу Энсхедэ, 5. кароткая ўрачыстая каталіцкая малітва, 6. мясцовасць у Галілеі, слаўная вінам, 7. жонка біблейнага Ісаака, 9. прыемнае ўражанне, 11. вучань Ісуса родам з Каны Галілейскай (Іаан,21:2), 12. дабрабыт, 15. імя цароў Візантыі і Грузіі, 16. там жылі Лазар, Марфа і Марыя, 18. старазапаветны прарок, 19. грэчаская літара, 21. яе лавіў і спажываў Сімон Пётр.

**(Ш)**



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 47 н-ра:** балада, булава, абарог, пагода, Парнас, Байран, Апулей, хлусня, піянер, Купрын, скнара, аркада

**Кніжныя ўзнагароды высылаем Лукашу Пацэвічу і Аляксандру Дабчынскаму з Беластока.**

**МІНІ-ДАВЕДНІК:**
**Іраклій II (1720—98)** — грузінскі цар; у 1783 г. заключыў г.зв. Георгіеўскі трактат з Расіяй, у сілу якога Грузія пераходзіла пад апеку Расіі.




Мілае Сэрцайка! Я замуж за чалавека з траіма дзецьмі выходзіла свядома. Па-першае, я была закаханая, а па-другое, любіла дзяцей. Жонка яго загінула ў аўтамабільнай катастрофе, а ён тады вёў машыну. Два гады хадзіў паўпрытомны, а я, яго суседка, пацяшала яго, як умела. І... дапацяшалася да таго, што закахалася. Ён спачатку не хацеў нават глянуць на іншую кабету, а пасля і ён адважыўся сказаць мне, што ўжо не можа жыць без мяне.

У той момант я ўжо кахала яго дзетак, як сваіх. І з радасцю стала іхняй маці. Мяне цешыла ўсё, што датычыла іх, — іх вучоба, дзіцячыя справы, мары. Найстарэйшай дзяўчынцы было дзесяць гадоў, хлопчыку — сем, а малодшай дзяўчынцы — пяць. Такі гарошак, а без маці...

Але пачалі радзіцца нашы дзеці. Мілае Сэрцайка, на працягу сямі гадоў я нарадзіла іх чацвёра. Муж мой не прызнаваў ніякіх сродкаў асцярожнасці. Не хацеў таксама, каб я прымала нейкія антыканцэпцыйныя сродкі, бо гэта „не па-божаму".

Сэрцайка, Бог мне сведка, што я кахаю ўсіх нашых дзетак аднолькава. Не важна, што старэйшых нарадзіла іншая жанчына. Яны — мае, бо я кахаю іх бацьку.

Але, павер мне, не магу сабе дазволіць на тое, каб радзіць далей дзяцей. Часы насталі нялёгкія, як усіх іх выкарміць і апрануць... Не магу сабе ў той жа час дазволіць на рызыку, што зацяжару. Ты ж ведаеш, што аборты забаронены. Зрэшты, я і так бы ніколі на гэта не пайшла, а мой муж, пэўна, развёўся б са мною, калі б мне нешта падобнае прыйшло ў галаву.

Што рабіць? Мой муж усё яшчэ хацеў бы інтэнсіўна кахацца, але нават антыканцэпцыйныя сродкі лічыць грэхам. Дык як жыць?

І я знайшла сабе выйсце. Проста, калі ведала, што ў мяне плодныя дні, старалася прытварацца хворай, казала, што мне ўсё баліць у сярэдзіне. Муж, аднак, хутка выкрыў мае хітрыкі. Пачаў прад'яўляць мне прэтэнзіі. Тады я вырашыла пайсці на іншую хітрасць. Калі ведала, што можа наступіць „катастрофа", дык старалася быць бруднай, занядбанай, нецікавай — проста кажучы, такой, каб яму мяне адхацелася. Як дзіцця маці аднімае ад цыцкі, так і я на небяспечны час аднімаю яго ад сябе, як умею.

Ну, і што? Кепска. Злуецца, нервуецца, а я толькі і чакаю, калі ён пачне спаглядаць на іншых. Дрыжу. Ну, а што ты магло б мне падказаць?

**Галя**

Бедная Галя! Якая ж ты нешчаслівая ў сваім шчасці! Няўжо трэба быць брудным і неахайным, каб быць чалавекам сумленным?! Ты ж і так ашукваеш мужа, дык мо нейкі сродак, які паўстрымліваe цяжарнасць, быў бы шмат менш грэшны... Па-мойму, Галя, няма большага грэху, як нарадзіць дзіцця, якое нікому не патрэбна, якое не прынясе бацькам радасці. Раслумач усё гэта свайму мужу. Няўжо ж ён гэтага не зразумее...

Не рабі з сябе пакутніцу. Мужчыны пакутніц ненавідзяць. Як бач, знойдзе сабе іншы прадмет пажадання.

**СЭРЦАЙКА**